
Тры мілі ад Сямятыч ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Хадароўскія могілкі ➔5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 46 (3262) Год LXIII | Беласток, 18 лістапада 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Выставу адкрыла дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч (стаіць справа)

# Выстава рукадзелля ў Кляшчэлях

У Цэнтры турызму і культуры «Гладышка» ў Кляшчэлях 4 лістапада адкрылася выстава «Гісторыя сатканая ніткай», якая паказвае перш за ўсё даўняе тканае, вышыванае і выкананае кручком рукадзелле. Пакрывалы, сурвэты, ручнікі, макаткі, палавікі і іншыя вырабы, выкананыя ў мінулым жыхарамі гмін Кляшчэлі, Дубічы-Царкоўныя і Мілейчычы, сабралі дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч з працаўнікамі. Часта перадавалі экспанаты дзеці і ўнукі майстроў па ткацтве і вышыўцы. У міжваенны і пасляваенны перыяды ў мнагадзетных сем'ях рукадзеллем займаліся амаль у кожнай хаце. Экспазіцыя даўняга рукадзелля, арганізаваная Гарадскім асяродкам культуры ў Кляшчэлях, была папоўнена экспанатамі, сабранымі Культурным аб'яднаннем «Паштоўка» з Палічнай і нешматлікімі вырабамі сучаснага рукадзелля.

— Гарадскі асяродак культуры ў Кляшчэлях дзейнічае таксама ў напрамку захавання мясцовых традыцый і культурнай спадчыны. Мы нядаўна пачалі рэалізаваць праект «Рэ_традыцыі», накіраваны на захаванне нашай спадчыны. На выставе экспануецца вельмі цікавае рукадзелле. На яго аснове варта пазнаёміцца з традыцыямі нашага рэгіёна. На экспазіцыі знаходзяцца даўнія тканыя вырабы і арыгінальныя ўзоры характэрныя для нашага рэгіёна, — сказала дырэктар асяродка культуры **Малгажата Клімовіч** падчас адкрыцця выставы.

У не так далёкім мінулым жанчыны яшчэ пралі на калаўротках, ткалі на кроснах, вышывалі, вязалі кручком карунковыя вырабы. Сваё рукадзелле першапачаткова трымалі ў *сундуках*, шафах і толькі зрэдку выкарыстоўвалі яго ў святочны час. Таму ўзоры тканага і вышыванага колішняга рукадзелля захаваліся да нашага часу ў добрым стане. Зараз будуць маглі ім захапляцца моладзь, турысты і старэйшыя асобы, якія яшчэ памятаюць працэс выконвання пакрывалаў, ручнікоў і макаткаў.

— Мы ў моладасці цяжка працавалі, каб выканаць пакрывалы, абрусы, ручнікі. Самастойна выкананае рукадзелле дзяўчаты бралі ў пасаг, калі выходзілі замуж, а яго колькасць і якасць былі доказам іх працавітасці, — заявіла жанчына, якая захоўвае рукадзелле сваіх продкаў.

— Я ў бацькаўскай хаце і ў доме мужа ткала пакрывалы, выконвала абрусы, ручнікі, працавала з кручком або з іголкай і ніткай у руках і гэта давала мне вялікае задавальненне, — сказала іншая жанчына.

— Я захоўваю ільняную макатку з аленямі выкананую маёй сястрой. У мяне ёсць таксама пакрывала бабулінай сястры, якая не вярнулася з бежанства, жыла ў Кіеве і аддала нам яго, — сказала **Тамара Яўдасюк** з Гайнаўкі, якая ў адрамантаванай бацькаўскай хаце ў Дабрывадзе захоўвае даўняе рукадзелле.

— Мінуў ужо час, калі вырабы даўняга рукадзелля можна было купіць за невялікія грошы. Цяпер нашчадкі майстрых захоўваюць дома старыя ручнікі, абрусы, пакрывалы як памятку па продках, — сказала наведвальніца выставы.

— Тут можна паглядзець цікавыя тканыя *плахты*, ручнікі і вязанае кручком рукадзелле. Мы такія вырабы выконвалі ў моладасці. У кожным доме стаялі калаўроткі, кросны і ўсё тое, што тут прэзентуецца, мы выконвалі ў мінулым самастойна, — заявіла пажылая жанчына.

Цяпер даўнія вышываныя і выкананыя кручком вырабы выкарыстоўваюцца для ўпрыгожвання адрамантаваных драўляных хат. На выставе ў «Гладышцы» прэзентуецца перш за ўсё рукадзелле апошніх дзесяцігоддзяў мінулага стагоддзя. Экспануюцца таксама працы, выкананыя ў трыццатых гадах. Вельмі цікавымі лічацца пакрывалы ў *пераборы*, з матывамі характэрнымі для рэгіёна Белавежскай пушчы. Мне вельмі цікавымі былі пакрывалы з даўнімі ўзорамі, выкананыя ў сямідзясятых гадах Марыяй Клімовіч з Дабрывады (покі я заўважыў гады іх выканання, думаў, што ўзніклі яны ў міжваенны або пасляваенны перыяд). Прыгожыя пакрывалы з больш сучаснымі, таксама цікавымі ўзорамі аўтарства Ніны Сэлеванові з Дашоў прынесла яе нявестка Таіса Сэлевановіч з Кляшчэляў.

— Мне мама Анастасія перадала ў вясельны падарунак ваўняныя пакрывалы. А тут ляжыць мая хрышчонка, зробленая з палатна і вышытая пад мае хрысціны, якая пасля выкарыстоўвалася на маім вяселлі. Гэта самы блізкі мне экспанат з ліку ўсіх, перададзеных мною на выставу, — сказаў **Мікола Кас'янюк** з Кляшчэляў, які пазычыў выкананае мамай у Рагачах рукадзелле.

Вельмі цікавыя экспанаты, між іншым саян з трыццатых гадоў мінулага стагоддзя, ручнікі і пакрывалы, перадала на выставу Ніна Яўдасюк з Дабрывады, ураджэнка Войнаўкі.

— Мая бабуля Марыя Фурса з Тафілаўцаў займалася рукадзеллем і некаторыя яе вырабы можна тут пабачыць, — сказала **Альжбета Пюркоўская**.

— Мы рашыліся перш за ўсё паказаць рукадзелле, якое захавалася ў нашчадкаў рукадзельніц. Спачатку трэба было знайсці ўласнікаў старога рукадзелля. Калі мы сталі абсталёўваць выставу, заходзілі да нас асобы, якія заяўлялі, што і ў іх ёсць даўняе рукадзелле. Калі б прыйшлося ладзіць чарговую падобную выставу, думаю, што сабралі б яшчэ намнога больш экспанатаў. Мы наладзілі супрацоўніцтва з аб'яднаннем «Паштоўка» з Палічнай, паколькі ў іх быў ужо вопыт у збіранні і апісванні прыкладаў рукадзелля. Частка экспанатаў была перададзена нам менавіта аб'яднаннем «Паштоўка». Мы сталі запісваць успаміны рукадзельніц і запрэзентуем іх у будучыні, — сказала дырэктар Малгажата Клімовіч.

— Ручнікі, абрусы, макаткі і пакрывалы на ложкі, якія вясковыя жанчыны ткалі на кроснах, упрыгожвалі вышыўкай і карункамі, гэта вельмі важная частка традыцый гэтага рэгіёна і можна іх знайсці ў многіх дамах на Гайнаўшчыне. Мы ўсё рукадзелле фатаграфавалі, дакументавалі і будзе можна ў будучыні карыстацца яго вельмі багатымі па змесце і палітры ўзорамі. Можа стануць яны інспірацыяй для новых узораў, з улікам на традыцыю Гайнаўшчыны, — сказала **Агата Рыхцік-Скібінская** з Культурнага аб'яднання «Паштоўка» ў Палічнай, каардынатарка і галоўная рэалізатарка праекта «Гісторыі сатканыя з ніцей — старое рукадзелле для будучыні», рэалізаванага «Паштоўкай». Пасялілася яна з мужам у Палічнай у 2012 годзе і свой дом стала абсталёўваць у адпаведнасці з мясцовымі традыцыямі і тады зацікавілася тканым і вышываным рукадзеллем.

Агата Рыхцік-Скібінская на адкрыцці экспазіцыі рукадзелля адзначыла важнасць ініцыятывы Гарадскога асяродка культуры спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях для захавання традыцыі.

— Прэзентаваныя на выставе экспанаты збіраліся ад вясковых жанчын, іх дзяцей і ўнукаў у рамках праекта «Рэ_традыцыі», якога рэалізацыю фінансава падтрымаў Нацыянальны цэнтр культуры. Галоўнае ў нашым праекце — адшукаць і паказаць вырабы вясковых рукадзельніц. Мая бабуля Анастасія Зубік з Сакоў займалася рукадзеллем ужо ў бацькоўскім доме Мацкевічаў у Старыне. Перадалі нам на выставу вырабы жыхары Сакоў, суседніх Сухавольцаў. Купілі мы ў Кляшчэлях кросны, на якіх нашы рукадзельніцы з Кляшчэляў і Ніна Яўдасюк з Дабрывады маюць вучыць ткаць на кроснах. У рамках праекта будзем шукаць сувязі паміж даўнімі традыцыямі і новым у тканым і вышываным мастацтве. Карыстаючыся традыцыйным рукадзеллем і яго рознымі тэхнікамі выканання, хочам стварыць вялікую сучасную інсталяцыю. Маем таксама намер змяшчаць на кашульках узоры традыцыйнага рукадзелля, — распавяла дырэктар Малгажата Клімовіч.

Выстава рукадзелля ў Цэнтры турызму і культуры «Гладышка» ў Кляшчэлях адкрытая да канца снежня.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Чырвоны дзень ці ганебная дата

Рэспубліка Беларусь зноў на афіцыйным дзяржаўным роўні адзначыла чарговыя ўгодкі „Великого Октября" — гадавіну чужога бальшавіцкага перавароту ў чужой для нас суседняй краіне. І хоць паводле ўказу кіраўніка краіны з 1998 года гэта нібыта ўжо не дзяржаўнае свята, а „агульнарэспубліканскі святочны дзень", пачуццё непрымальнасці і агіды ў кожнага з людзей, хто хоць крыху ведае гісторыю, застаецца. Тым больш, нават у Расеі гэты „красный день календаря" перайначылі і назвалі „днём адзінства".

Для звычайнага працоўнага чалавека лішні выходны дзень канешне ў радасць. Для школьніка дадатковыя вольныя суткі ў дадатак да канікул, якія прыпадаюць якраз на першы тыдзень лістапада, яшчэ большае задавальненне. Але даўно зразумела, што амаль ніхто ніякіх угодкаў чужынскай сацыялістычнай рэвалюцыі не святкуе. На плошчы вялікіх гарадоў да помнікаў Леніну яшчэ выходзяць дзясяткі (дзякуй Богу, што ўжо не тысячы і нават не соткі) вурдалакаў, якія валакуць чырвоныя гваздзікі да пастаментаў свайму крываваму ідалу. Гэта прамыя і духовыя нашчадкі былых энкавэдыстаў і тыя артадаксальныя камуністы, якія так і не выйшлі праз дзесяцігоддзі з дурману бальшавіцкай прапаганды. Гэтай „эліце" нашага грамадства ўладай дазволена ўсё — яны могуць выходзіць без усялякіх заявак і дазволаў на кожную плошчу, у кожнае месца і насіць з сабой якія заўгодна транспаранты і сцягі. Гэтыя, так званыя „ветэраны", як яны любяць сябе называць, цягаюць з сабой сцягі Савецкага Саюза і істэрычна настальгуюць па „великой стране, которую мы потеряли". Хай бы сабе хадзілі гэтыя персанажы як экзоты і дэманстравалі ўсім сваю вампірскую сутнасць, асабіста я — за свабоду выяўлення думак і поглядаў, калі яны не супярэчаць заканадаўству. Нібыта і Канстытуцыя гэта дазваляе. Быў бы гэткі постсавецкі камуністычны кастрычніцкі Хэлоўін. Але калі да помнікаў сваім героям выходзяць беларусы з нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі — тут дзеянне той самай Канстытуцыі адразу заканчваецца. І вось ужо маем чарговыя пратаколы пра нібыта адміністрацыйныя правапарушэнні за Дзень памяці паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы. З савецкім чырвоным сцягам можна ўсюды, з беларускім нацыянальным — нельга нідзе. Так дзяржава, якая ўжо даўно нагадвае феадальную манархію, ясна абазначае сваё стаўленне да заканадаўства і да патрыётаў — ёсць роўныя перад законам, а ёсць намнога раўнейшыя.

Трагікамічная гісторыя адбылася ў гэты дзень 7 лістапада ў Гродне. Двое грамадскіх актывістаў — Мікалай Салянік і Аляксандр Лаўрэнцьеў выйшлі на плошчу Леніна з плакатам „Долой самодержавие!" („Далоў самаўладдзе!"). Здавалася куды ж больш адпаведны лозунг ідэалам бальшавіцкай рэвалюцыі стагадовай даўніны!? Але ж, што дазволена быку, не дазволена індыку! Пільныя і мужныя ахоўнікі правапарадку адразу скруцілі двух удзельнікаў палітычнага перформансу і завезлі іх у пастарунак — пакаранне за такі лозунг непазбежнае — арышт ці вялізныя штрафы.

Сама далей у фармуляванні ідэалогіі „Велікава Акцябра" пайшоў, канешне, галоўны ідэолаг дзяржавы, ён жа галоўны эканаміст, хакеіст і яшчэ многа хто ў гэтай краіне. Гэты пераўзышоў нават самога сябе, дагаварыўся да таго, што, аказваецца „Октябрьская революция — это праздник мира и прав человека". Тут, як кажуць, можна ўжо апускаць тэатральную заслону. Спектакль татальнага ідэалагічнага абсурду і павінен заканчвацца такім апафеозам. Наеліся беларусы ў дваццатым стагоддзі такога міру і такіх правоў, якія прынеслі камуністы на некалькі вякоў наперад.

Таму нічога дзіўнага, што на зварот грамадскасці з прапановай перанесці выходны дзень з ненатуральнага 7 лістапада на Дзяды — 2-га лістапада, як гэта было ў „дарэформенны" Беларусі, дзяржаўныя чыноўнікі адказалі адмовай. Міністэрства працы і сацыяльнай абароны лічыць, што „Вялікая кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя" выклала працоўных ад эксплуатацыі і прыгнёту, зацвердзіла раўнапраўе і сацыяльную справядлівасць. Вось так...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Хто чаму аддае перавагу

Я пішу гэтыя словы за некалькі дзён да 11 Лістапада. Для палякаў гэта важная дата — 100 гадоў таму Народ вярнуў сабе незалежнасць, а польскай дзяржаве — яе палітычны суверэнітэт. Гэты дзень мае аб'ядноўваць, па меншай меры, сімвалічна, усіх палякаў, незалежна ад іх рэлігіі, палітычных перакананняў і сацыяльнага паходжання. Гэта павінен быць дзень, які сімвалізуе нацыянальнае адзінства. Толькі што гэта не так. Бо было б цяжка, калі польскі сцяг, адзін з сімвалаў, аб'ядноўваючых нацыю — палітычныя колы падрэзваюць па-рознаму — кожнае па сваёй уласнай, самай слушнай, правільнай меры. Правільная і няправільная — супярэчлівыя катэгорыі. Я ўспомніў дыскусію са сваімі мультыкультурнымі сябрамі, у якой паставілі пытанне: ці было б правільна, калі б праваслаўны жаніўся з каталічкай, габрэй з негабрэйкай, мусульманін з будысткай, вегетарыянка з мясалюбным мужчынам... Было вырашана, што з аднаго боку гэта няправільна, таму што гэта можа прывесці да культурнага размывання і страты першапачатковай культурнай ідэнтычнасці, з другога боку — правільна, таму што чаму б і не?! Тут мерай выбару суб'ектыўныя пачуцці, каханне. Іншая справа, што такая шлюбная блытаніна мусіць пацягнуць за сабой шмат культурных і маральных канфліктаў. Незалежна ад нашых вопытных і мудрых, але часам зашмат эмацыйных (дурнаватых) аргументаў на карысць ці супраць, кожны з нас, нарэшце, прызнаецца, што закранутае пытанне невырашальнае. А таму невырашальнае, бо ўспрымаем мы праблему ў межавым палажэнні, у крайнасці. Гэта так, як з верай... у што-небудзь, — заключыў адзін з нас. Выкажам здагадку, аднак, што гэта тычыцца пытанняў светапогляду, напрыклад, існавання або не існавання Бога. Вера ў Бога ці нявера ў яго, — сцвярджаў ён, — неяк ігнаруе важны аспект яго існавання або неіснавання, пацягнуўшы на пярэдні план ужо ўсталяваныя асабістыя перакананні ў сувязі з гэтым, і, нарэшце, дасягнуўшы ўрэшце адказнай і свядомай аўтадэкларацыі. Любыя аргументы, нават самыя відавочныя ў гэтай сувязі, маюць толькі дапаможнае значэнне, значыць, другаснае. Мы вырашылі, што пытанне, паднятае намі, належыць да катэгорыі слушна няправільных. Або няправільна слушных. Што каму лепш гучыць. Адзін з нас, аднак, запярэчыў гэтаму, сцвярджаючы, што з'яўляецца праціўнікам такога вальнадумнага лібералізму і, стоячы на сваім слушным і радыкальна высокім беразе, з якога найлепш убачыць усю ваколіцу, можа назваць тых, хто стаіць на іншым, нізкім беразе, несвядомымі дурнямі. Мы на такое паківалі толькі галовамі. Моўчкі. Нацыяналізм з'яўляецца перакананнем, што нацыя гэта вышэйшая каштоўнасць, з якой вынікае акрэсленае палітычнае, эканамічнае, сацыяльнае стаўленне. Вышэйшае падагульняльнае вызначэнне ўзятае з Вікіпедыі. Так ці інакш мае салодкае гучанне, амаль бездакорнае. Таму што любоў да сваёй Радзімы чыстая, цудоўнае чэрпанне з гонару і сілы свайго Народа, з яго няўломнага характару і мудрасці, з яго Гісторыі і інтуітыўна падманную, але непазбежна цудоўную будучыню. Хтосьці аднойчы сказаў, што Народ — самы важны! Але хто сказаў — ці гэта беларус, украінец, расіянін, немец або любы прадстаўнік іншай нацыі — не памятаю. Ці гэта важна? Для кожнага з іх была б гэта ясна гучаўшая дэкларацыя, якая палегчыць ідэнтыфікуючую арыентацыю ў мазаічным свеце многіх народаў, рэлігій, светапоглядаў. Тым не менш вызначаная каштоўнасць — Народ — хоць здаецца быць гладкая, а калі гаворка ідзе, напрыклад, пра беларуса, які жыве сярод сваіх суайчыннікаў у Беларусі, паляка ў Польшчы, яўрэя ў Ізраілі, яна хутка раскладваецца маршчынамі, закручваецца і нават выварочваецца навыварат, калі падумаеца аб тых, хто з'яўляецца грамадзянамі іншай краіны, але грамадзянамі ўкаранелымі на працягу некалькіх пакаленняў, хоць у чужым культурна для сябе асяроддзі, у рэшце рэшт, гэта асяроддзе, так ці інакш засвойваецца імі праз мову, узаемныя зносіны, ці нават родныя адносіны з іншакультурнасцю ці іншарэлігійнасцю. Суседзі — не іншапланецяне. Гэта свае. І незалежна ад таго, варожыя або абыякавыя, або сябры. Тут выключаю часовых мігрантаў, блукаючых па чужых краінах у пошуках прыбытковай працы ці проста хлеба. Калі яны нацыяналісты, то наўрад ці вырываюцца яны з дэкларацыямі ў чужой краіне. А як з беларусамі, украінцамі, літоўцамі, габрэямі, ад стагоддзяў упісанымі ў польскасць? Перавагу чаму дадуць палякі — акажацца 11 лістапада.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбарчы марафон (6)

Тыдзень назад засяродзіўся я на выніках выбараў у Беластоку. Цяпер прыглянемся хто кіруе ў павятовых гарадах у Падляшскім ваяводстве і якая там на месцы расстаноўка сіл. Пачнем з Саколкі. Тут за пасаду бургаміста змагаліся чатыры асобы, у тым дзейсная бургамістр Ева Кулікоўская з Польскай сялянскай партыі. І гэтым разам з выбарчага змагання выйшла яна пераможцам у першым туры з вынікам 6394 галасоў (56,51%); астатнія атрымалі адпаведна: Пётр Буйвіцкі — 3942 галасы (38,84%), Марк Аўдзей — 570 галасоў (5,4%) і Юры Казіміровіч — 408 галасоў (3,01%). У раду горада стартавала шэсць камітэтаў, увайшлі чатыры, а менавіта: Права і справядлівасць 7 радных (3355 галасоў), Народна-хрысціянскі камітэт — 7 радных (3152 галасы), Дыялог і супраца — 4 мандаты (1767 галасоў) і Разам для Саколкі — 3 мандаты (1759 галасоў). Такі вынік абазначае працяг партызанскіх войнаў у горадзе паміж Польскай сялянскай партыяй і Правам і справядлівасцю, хіба што створыцца паміж імі кааліцыя. Не такое бачыла ўжо мясцовая палітыка.

У непадалёкай Дуброве-Беластоцкай выбар бургаміcтра прайшоў у першым туры, але ў вельмі жорсткім і роўным змаганні. Перамог дваццацідзевяцігадовы Артур Гайлевіч з вынікам 2350 галасоў (50,80%), абганяючы Тадэвуша Цішкоўскага — 2276 галасоў (49,20%). Як бачым розніца сапраўды невялікая.

Памаленьку едзем на поўдзень нашага ваяводства ў Бельск-Падляшскі, у якім спатрэбіўся другі тур выбараў. У першым туры стартанулі кіруючы бургамістр Яраслаў Бароўскі з Бельскай кааліцыі — 5109 галасоў (47,99%), Агнешка Герасімюк-Хаміцкая з Права і справядлівасці — 429 галасоў. Была яна пастаўлена мясцовым ПіСам у апошні момант, бо раней супольным кандыдатам аб'яднанай правіцы быў Тамаш Грынявіцкі, які набраў 3310 галасоў (31,09%) і перайшоў у другі тур. Кандыдат левых Аркадзій Вашкевіч узяў 530 галасоў, а кандыдатка Нашага Падляшша Бажэна Зваліцкая — 1267 галасоў. Наша Падляшша і Бельская кааліцыя — гэта палітычныя хаўруснікі, якія разам шмат гадоў кіруюць горадам і Бельскім паветам. У другім туры выбараў не было неспадзяванак. Яраслаў Бароўскі стаў бургамістрам на чарговы тэрмін з вынікам 5938 галасоў (60,21%). Ягоны сапернік набраў адпаведна 3 924 галасы (39,79%). У горадзе Яраслаў Бароўскі не павінен мець праблем з супрацоўніцтвам з Радай горада, таму што пераможцам тут таксама стала Бельская кааліцыя, якая абапіраецца на беларускую і ўкраінскую меншасці. Таму з перавагай у радзе застаецца пажадаць бургамістру і жыхарам горада разумнага кіравання і беларускага духу штодзень. Вось выбарчая статыстыка ў Бельскую гарадскую раду. Саюз левых дэмакратаў — набраў 1413 галасоў і не мае аніводнага раднага. Няшмат больш галасоў — 1478 — узяло Права і справядлівасць ды атрымала ажно 3 мандаты. Вышэйзгаданае Наша Падляшша атрымала 1978 галасоў і таксама 3 месцы. Выбарчы камітэт Супольна для Бельска ўзяў 2003 галасы і ўвёў 5 радных. Пераможцам стала Бельская кааліцыя, якую падтрымалі 3533 выбаршчыкаў і гарантавалі ім ажно 9 мандатаў. Такі вынік дае вялікі дэмакратычны давер да народных абраннікаў і адначасна забавязвае да канкрэтных і карысных змен для ўсіх жыхароў горада.

З Бельска-Падляшскага пераносімся ў Сямятычы, дзе выбар бургаміcтра вырашыўся ў першым туры. Пётр Сіняковіч са свайго ўласнага выбарчага камітэта Для Сямятыч набраў 4585 галасоў (72,74%), і перамог кандыдата Права і справядлівасці Якуба Фіца (адпаведна 1718; 27,26%). Але сапраўдны накдаўн выбарчы камітэт дзейснага бургамістра нанёс сапернікам у выбарах у раду горада, дзе ўсе яго пятнаццаць кандыдатаў сталі раднымі, не даючы аніводнага месца іншым групоўкам. І так згаданы пераможны камітэт атрымаў 3673 галасы і сабраў усе фрукты, а камітэт Права і справядлівасці — 2080 галасоў і нуль месцаў у радзе. А стартаваўшы Саюз левых дэмакратаў ледзь назбіраў 382 галасы і, зразумела, застаўся без шанцаў на раднага.

Мне проста аж не верыцца, што такі метад пераліку галасоў пазбаўляе камітэт, які атрымаў звыш дзвюх тысяч галасоў займець свайго прадстаўніка ў гарадской радзе. Таму такі спосаб пераліку галасоў сапраўды можа адбіраць ахвоту да якойколечы выбарчай актыўнасці звычайных людзей.

**Яўген ВАПА**


Новыя крыжы ў Клюковічах

# Тры мілі ад Сямятыч

Пачну з веласіпеда. На станцыі ў Чаромсе сядаю ў „Чарамшак", бо так называецца цягнік, які курсіруе між Варшавай і Чаромхай. Стаўлю свой веласіпед на прызначанае гэтаму багажу месца. Неўзабаве прыбывае туды старэйшая жанчына, таксама з веласіпедам, і прыстаўляе свой да майго, хаця ў веласіпедным адсеку ёсць іншыя месцы. Я забіраю свой пераставіць на свабоду, бо ж мне неўзабаве, у Нурцы, трэба будзе забрацца разам са сваім багажом. Дзеля гэтага прашу спадарожніцу, каб на момант прыбрала свой байкавы багаж ад майго. Дазваляе мне вызваліцца, інфармуючы, што яна толькі ў Баравікі, да найбліжэйшага прыпынку; пасля, размаўляючы з нейкім сваім знаёмым, выяўляе, што яна выбралася ў тамашні лес назбіраць крышку грыбоў...

Прыпынак Баравікі, як мне ўдалося заўважыць з акон вагона, мяняе сваё месца, цяпер ён будзе бліжэй Чаромхі, бліжэй дарогі ў Рагачы і Мікулічы. Дзеля гэтага будуюцца новыя пероны і развальваюцца старыя. А на чарговым прыпынку, Нурэц-Станцыя, ужо пабудаваны новы перон, на старым, даволі высокі, ён вышэй за падлогу поезда. Цяпер там будзе выгадна сядаць у вагоны, не так, як для прыкладу, на прыпынку Падбелле, дзе перон роўны з рэйкамі...

На станцыі Нурэц чарговая нечаканасць: вакзальны будынак, яшчэ з царскага часу, якога нейкім цудам не кранулі сусветныя войны, цяпер здаваўся, запар з абязлюдзеннем наваколля, паволі траціць сваё чыгуначнае прызначэнне і занядбаны чакаў прысуду Часу. Але ж зараз ён рамантуецца, абнаўляецца, ратуецца ад руіны. Ды і пероны чакае таксама нейкае абнаўленне — раскіданы праходы паміж імі; значыць, будзе там нешта новае. А мне, з веласіпедам, загвоздка — як з таго перона выбрацца: цягнуць байк на кладку ці змагацца са шчэбнем і рэйкамі? Але на завакзальны бок добрыя людзі пратапталі па пуцях сцежку, якою і я скваплна карыстаюся.

Падаюся ў маршрут, які я калісь, па ўсёй верагоднасці звыш дзясятка гадоў назад, прайшоў пехатою. Тады было такое магчыма, бо курсіравалі яшчэ прыстойна аўтобусы і на завяршэнне вандроўкі можна было тымі аўтобусамі выбрацца з глыбінкі; цяпер трэба разлічваць на свой байк. Значыць, падаюся ў напрамку Барысаўшчыны. Побач асфальтоўкі, якая паводле дарожных указальнікаў, вядзе ад Нурца-Станцыі ў бок Радзілаўкі ці Радзівілаўкі, паветка аўтобуснага прыпынку. Чаму служыць цяпер такая паветка? А яна патрэбная дзеля развешвання на ёй выбарчых агітацыйных плакатаў і лістовак; сёлета была такая нагода і паветка ў Барысаўшчыне на нейкі час павесялела...

Недалёка гэтай паветкі была некалі база эскаэраўскіх машын. Зараз ад яе асталіся толькі сцены канторскай будыніны, а ўвесь пляц рупліва заараны і прыбаранаваны. Зараз за гэтым пляцом адыходзіць дарога ў бок Вэрпаля і я кіруюся ў тым напрамку. Адзін з хатніх агародчыкаў побач гэтай дарогі за „майго" часу быў упрыгожаны рознымі драўлянымі аздобамі ў выглядзе вясковых сельскагаспадарчых прыбораў і бутафорый жывёльнага свету. Зараз тыя драўлянныя мадэлі пастарэлі, мабыць у такім жа тэмпе, як і іх выканаўцы; яны прыкрыты ўжо прыстойным саванам шэрасці, бясколернасці.

Дарога з Барысаўшчыны ў Вэрпаль пралягае няспешнай грунтавой стужкай цераз лес. Гэтая дарога абсаджана дубамі, якія ў позні асенні час згубілі сваё лістоўе і цяпер, аголеныя, прэзентуюць свае сукаватыя мускулы і мускульчыкі, быццам атлеты-культурысты. Інакш справы маюцца з соснамі, яны ў лесе далікатныя, няўстойлівыя супраць мацнейшага ветру, пад якім лопаюць сасновыя або ствалы, або карані... Карычневыя ўжо лісточкі на кустах курчацца, скручваюцца ў ролікі, так як і людзі курчацца ў холад, каб было ім цяплей; гэтак жа ж і лісточкі ў тых сваіх роліках намагаюцца захаваць крыху цяпла, стварыць там нешта накшалт наналімату, каб яшчэ крышку патрываць... А мяне карціць заглянуць крыху ў лясную глыбінку, пабачыць ці няма на тамашніх сухазёмах зялёнак ці апенек на сыразёмах. Удаецца пабачыць зялёнкі, але для апенек лес здаецца быць замалады; ягоным соснам каля трыццаткі.

А вось у Вэрпаль паралельна са мною ўваходзіць і пара грыбнікоў. Ад іх у маім напрамку выбягае пара невялікіх сабак.

— Не з'ядуць яны мяне? — пытаю.

— Не, яны прыстойных людзей не кусаюць. А такі худы як Вы, то іх і зусім не цікавіць, — адказала жанчына.

Мужчына пацягнуў пукатыя сумкі, з апенькамі, а з жанчынай, якая несла толькі крыху падзялёнак у фольгавай торбачцы, удалося мне абмяняцца некалькімі словамі. Яна свой грыбны ўлоў справіла ў ходзе кароткага шпацыру. Больш грыбоў ёй не трэба, бо ўжо і так пераеліся. Пытаю пра першую хату, на якой калісь была шыльда вясковай святліцы, і даведваюся, што купіў яе нейкі варшавяк. А святліцу зараз абсталявалі ў будынку былой крамы. У гэтай частцы Вэрпаля, якая ад лесу, усе хаты яшчэ абжыты, але далей, у „сяле", ёсць і пустыя хаты. Некаторыя з іх пакуплялі варшавякі, але і некаторыя „варшавяцкія" хаты таксама апусцелі.


Могілкавая капліца

У 1981 годзе Мікола Гайдук так быў пісаў пра гэтую вёску: „Заходнюю частку вёскі людзі завуць Грабаркай, урочышча побач з ёю — Могілкамі, а далей у тым жа кірунку ў 3-4 кіламетрах, паблізу вёскі Барысаўшчына, захавалася ў лесе абшырнае гарадзішча — Замчыска. Даволі крыху капнуць даўніну і адразу выясняецца, што гэты шлях вядзе ў бездань некалькіх тысяч год мінуўшчыны няспыннага жыцця тут людзей. (...) Знаходзіцца яна [вёска Вэрпаль] у трох колішніх „літоўскіх" мілях (21 кіламетр) на ўсход ад Сямяціч пры старадаўнім гасцінцы. У памяці старэйшых сялян захаваўся нават абломак нейкага ананімнага народнага верша: „Як бы вітэ нэ ходілі: од Тэлятыч до Сэмятыч волочысе аж тры мілі". Тэлятычы — суседні прысёлак з прыхадскою царквою...".

Калі я ўпершыню наведаў гэтыя мясціны, тамашняя царква не ўяўляла сабою нічога асаблівага — звычайная драўляная бледна-сіняя „мураўёўка". Але зараз царкоўны краявід Тэлятыч значна змяніўся. Цяпер купалы царквы залацістыя ды і афарбоўка свежага цёмна-карычневага колеру, выдатна скампанаваная з купаламі. Але спярша могілкі, а на іх гэтаксама размаляваная і пазалочаная капліца Усекнавення Галавы Іаана Хрысціцеля, якая была пабудавана ў 1938 годзе. Такое храмавае збудаванне кідаецца адразу ў вочы. Можа па прычыне менш яркай афарбоўкі не звочыў я тае капліцы ў час даўняй вандроўкі. Заходжу перад тую капліцу, а на ёй асаблівы „замок" — інфармацыя на абедзвюх дзвярных створках, што ў царкоўцы няма нічога каштоўнага...

Брама на царкоўны пляц адкрыта і я карыстаюся гэтым „запрашэннем". Побач царквы жанчына з мужчынам заграбаюць ліставы насціл. Падыходжу да мужчыны — гэта настаяцель; заводжу з ім кароткую гутарку, хвалю за пабачаную эстэтыку. Святар інфармуе мяне ў адказ, што было б туга з царкоўнымі рамонтамі, калі б не еўрасаюзныя датацыі. Далей даведваюся, што святарская сям'я рыхтуецца да прыходскага свята, Касмы і Даміяна, якое тут адзначаецца 14 лістапада...

Даведнік на стэндзе перад царквой інфармуе: „Cerkiew w Telatyczach istniała zapewne już w XVI w., gdyż zachowany dokument z 1629 r. świadczy o niekorzystnym stosunku kolatorów do świątyni i duchownych. Podczas wizyty generalnej z 1725 r. w cerkwi telatyckiej pod Tytułem Wniebowstąpienia Jezusa Pana Naszego odnotowano, iż świątynia to szopka prosta barzo mizerna między słupy deskami zarzucona bez podłogi. Miejscami słoma trocha, a mieyscami Niebem pokryta...". Цяперашняя царква была ўзведзена ў царскі час у пачатку XX стагоддзя. Сучасныя вельмі важныя кціторы тэлятыцкай царквы знаходзяцца ў Брусэлі і яны ставяцца да яе даволі прыхільна. Праўда, дзеля гэтай прыхільнасці трэба ў іх пахадайнічаць і відаць, што настаяцель вельмі добра спраўляецца з гэтай місіяй. А прыхаджан становіцца штораз меней, штораз яны старэйшыя, штораз менш багатыя. Калі настаяцель пачынаў службу ў Тэлятыцкім прыходзе, у пачатку бягучага стагоддзя, было там каля пяцісот душ, зараз каля трохсот...

Падаюся ў бок Стоўбцаў, мясцовасці, якая, як мне запамяталася, не з'яўляецца вуліцоўкай, але лабірынтам дарожак з прысеўшымі побач іх хатамі. Зараз за назвай мясцовасці лес, а ў ім, побач дарогі, элементы своеасаблівай архітэктуры краявіду: цёпленька размаляваныя ў грыбы і божыя кароўкі невялікія камяні. Паварочваю ў першую дарожку, што адыходзіць у бок Клюковіч. Неўзабаве апынуся перад будынкам тамашняй вясковай святліцы, які здаецца быць прыхаваны на далёкай акраіне стаўбцоўскай тэрыторыі, амаль у лесе, як хатка Бабы-Ягі. Тратуарчык да яе не пазначаны ніякімі слядамі. Адчуваецца нешта з подыху магічнага рэалізму, з твораў Габрыеля Гарсіі; будынак апынуўся быццам па-за часам і па-за прасторай. А ўсярэдзіне новыя сталы чакаюць застольнікаў...

Далей дарога зарослая травою, а побач яе тэрыкончыкі драўніны, гніючых таполевых метраў. Нікому тыя дровы непатрэбныя. Недзе ў нашых высокіх вярхах пампезныя заявы пра амерыканскі газ для нас, а тут, у глыбінцы, марнуецца тое, што калісь было мясцовым энергетычным рэсурсам; магчыма, што такога парадку патрабуе наша экалогія, магчыма, што яшчэ не выпрацаваны спосабы газагенерацыі з мясцовай драўнінай сыравіны...

Яшчэ крыху вандроўкі лесам і адкрываецца краявід з устарэлымі кустамі парэчкі, а на далейшым плане — Клюковічы. Той даўні акіян парэчкавай плантацыі, які калісь быў прымеркаваны для сямятыцкага „Гортэксу", ужо значна „асушаны", на полі з'явіліся іншыя культуры: мора парэю, мора квяцістай капусты, мора морквы. А ў саміх Клюковічах з дзвюх ранейшых крам выжыла адна, прыватная. А геэсаўскую, як мне сказаў спатканы там мужчына, купілі тыя ж прыватнікі і неўзабаве маюць перанесці туды свой бізнес. І даваенны школьны будынак, побач якога статак авечак, таксама, паводле майго выпадковага інфарматара, купіў нейкі прыватнік...

Вяртаюся ў Беласток поездам. На адным з прыпынкаў сядае ў вагон групка пасажыраў. Адна жанчына шкадуе, што мой ровар заняў ейнае месца... Не толькі ў цягніках народ мае свае любімыя месцы, але як жа часта і ў храмах. Людзі, як тыя лятучыя мышы, прывыкаюць да месца, да руціны...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Жанчыны з усёй Нараўчанскай гміны, і не толькі згэтуль, бо і з-пад суседняй Нарвы пару месяцаў збіраліся ў святліцы ў Нараўцы. Прыносілі яны сюды скарбы, якія дасталі з бабуліных куфэркаў, але са сваімі матэрыяламі — палатном, ніткамі, і самі вывучалі гэтую з'яву ды прабавалі паўтарыць строчку сваіх прашчурак.

— О, у нас у Гушчэвіне прыгожа вышывала цётка «Інкі», — кажа Оля Раманчук, якая жыла насупраць сям'і Седзікаў.
— А я тут паказваю між іншым трохмерную макатку, дзе нашыты ягады трускалкі — «як жывыя». У сярэдзіне пукатай ягадкі, абцягнутай чырвонай панчошкай — губка. Гэта была мая, уласная задума, каб так іх вышыць.

Расказвае Кацярына Бяляўская, адна з задумшчыц праекта, аўтарка (разам з Юркам Шыманюком) старонкі пра нараўчанскія макаткі:

— Жыхары Нараўчанскай гміны з'яўляюцца спадкаемцамі багатых традыцый, якія ў выніку сацыяльных змен, аднак, знікаюць. Сёння, у эпосе развіцця сельскага турызму ў краіне, мы бачым вяртанне народнай матэрыяльнай і нематэрыяльнай культуры польска-беларускага прыгранічча. Нараўчанскія макаткі, дэкаратыўныя і гаспадарчыя, захоўваюцца ў шафах або куфрах да нашага часу. Макатка ўяўляе сабой невялікую дэкаратыўную тканіну і выкарыстоўваецца для падвешвання на сценах або пакрыцця мэблі. Паказваем у нас



# Чароўны свет нараўчанскіх макатак

народныя макаткі, зробленыя асабіста жыхарамі Нараўчанскай гміны, акрамя таго некалькі прыкладаў макатак з іншых крыніц. Мы публікуем на сваім сайце нашы макаткі ўпершыню і падаем дакументацыю, сабраную ў ходзе архіваціі, а фатаграфіі з'яўляюцца дакументам.

Нараўчанская макатка захапляе як прастатой формы, так і багаццем зместу, блізкага жыхарам Нараўчанскай зямлі. Інспірацыяй убрання дамоў было непасрэднае асяроддзе, а таксама шматпакаленныя паведамленні пра сімволіку, якая прадстаўляе запіс інфармацыі пра шчасце, здароўе, каханне, красу. Жанчыны вешалі на сценах макаткі вышытыя букетамі цюльпанаў, макаў, бэзу, кошыкі трускалак. Прадстаўленне пра каханне: галубкі звернутыя адзін да аднаго дзюбкамі. Намаляваны або вышыты пейзаж часта запоўнены бярозамі, такімі, як раслі за домам, пры дарозе. На доўгіх шэрых палотнах плаваюць лебедзі, ходзяць па балоце, па вадзе буслы. Карціны над вадой асабліва любілі тыя, хто жыў над ракой. Гэты ідылічны пейзаж-анклаў не закрыты, таму што побач з роднымі птахамі выступаюць экзатычныя жывёлы і птушкі, як паўлін, папугаі, львы.

Праект «Чароўны свет макатак» задумала згуртаванне «Сторчык» з Міхнаўкі Нараўчанскай гміны. Мэты праекта: захоўванне і папулярызацыя народных макатак, характэрных для мясцовасцей Нараўчанскай гміны. Праводзіліся наступныя дзеянні: стварэнне сайта www.makatka-narewkowska.eu, майстэрня вышыўкі макатак, а пасля выстаўка макатак. Фінансаваў праект «Чароўны свет макатак» Дэпартамент культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. Грант выдзелены з бюджэту ваяводства для рэалізацыі ў 2018 годзе дзяржаўных задач, якія адносяцца да вобласці культуры, мастацтва, аховы культурнай і нацыянальнай спадчыны, а таксама ў сферы дзейнасці нацыянальных і этнічных меншасцей і рэгіянальных дыялектаў.

Памаляваныя або вышытыя тканіны, утвараючы свайго роду плоскі малюнак, выступаюць у культурах і краінах па ўсім свеце. Мелі яны ролю рытуалу, напрыклад, тыбецкая тханка, інданезійская ікат ці бліжэйшыя нам славянскія ручнікі. Сёння цырыманіяльныя функцыя часта становіцца дэкаратыўнай.

Назва макатка асацыюецца з кухоннай макаткай, якая трапіла на нашу тэрыторыю ў дзевятнаццатым стагоддзі з Заходняй Еўропы, у асноўным з Германіі і Нідэрландаў. У Беларусі паняцце «макаткі» вядомае пад назвамі маляванка або маляваны дыван, макатка або пано. Аналогію плоскага і выпуклага гафту і дэкаравання махрамі мы можам убачыць на харугвах і рыцарскіх сцягах. Гэты тып тканіны, напрыклад, харугвы, сяляне бачылі ў касцёле і царкве. Інтэр'ер панскіх двароў быў таксама ўпрыгожаны тканінамі.

У Нараўчанскай гміне макатка гэта карціна на палатне, намаляваная або вышытая. У залежнасці ад таго, дзе іх паказвалі, прымалі канкрэтную форму. Над ложкам было доўгае, прастакутнае палатно, на сценах вешалі квадратныя або ромбападобныя, апошнія часта насупраць па абодвух баках вугла хаты. Вешалі таксама падвойныя макаткі з люстраным адбіццём. Узоры макаткавых матываў жыхары перадавалі адны ад адных. Жанчыны калькавалі на паперы чарцёж у маштабе 1:1, а затым пераносілі ўзор на палатно. Да сёння захаваліся папяровыя, уручную зробленыя копіі гэтых узораў. Захаваліся лісты з газеты, так званыя ўстаўкі з узорамі вышывак у такіх часопісах, якія выдаваліся ў дваццатых гадах мінулага стагоддзя, як „Bluszcz", „Kobieta w świecie i domu", але ёсць і з саракавых, такіх як «Крестьянка», а і з шасцідзясятых гадоў — «Работніца і сялянка».

У групе макатак намаляваных на працягу многіх гадоў вылучаецца вёска Семяноўка, дзе ў пасляваенныя гады ствараў мясцовы мастак Янка Мароз, які маляваў макаткі на палатне. На яго макатках былі казачныя і рэлігійныя сцэны, хадзілі паўліны і плавалі лебедзі, харашыліся кветкі ў кошыках. У працах Мароза размываецца мяжа паміж макаткай і жывапісам, прыкладам з'яўляецца рэлігійны абраз з Семяноўкі і пейзаж з Капітаншчыны. Не без значэння было тое, што палатно было расцягнутае на падрамніку, як на карціне. Да нядаўняга часу многія хаты былі аздоблены карцінамі Мароза са свецкімі тэмамі. Мастак прадстаўляў лес, горы, летнія і зімовыя краявіды і сцэны з палявання. Яго стыль быў непадробны. Намаляваў таксама горад Іерусалім на карціне «Хрыстос у Гефсіманскім садзе».

Макаткі з саломы рабіліся ў дзвюх вёсках: у Плянце і Тарнопалі. У абодвух выпадках яны выкарыстоўвалі тую ж тэму — шуляка (ястраба) сярод кветак і галубоў на галінцы. Па словах адной з былых жыхарак вёскі Лука, ідэя гэтага тыпу макатак прыйшла з-пад Крынак, скуль прывёз яе лучанскі гандляр коньмі. Мясцовыя дзяўчаты выкарыстоўвалі гэты ўзор, з кавалачкаў саломы ўклейваючы матыў клеем з мукі і размалёўваючы купленымі фарбавальнікамі. Ёсць таксама адзінкавыя прыклады макатак, звычайна купленыя звонку, намаляваныя на шкле, з кветкамі.

Прадстаўленыя намі макаткі былі задакументаваныя ў фатаграфічнай форме ў 2018 годзе і паходзяць з дваццаці вёсак Нараўчанскай гміны на Падляшшы. Гэта насценныя макаткі, што вісяць у пакоях, спальнях і кухнях над ложкам. Уключылі мы таксама настольніцы (абрусы) і кухонныя макаткі. Ёсць таксама вышываныя пакрывалы і дываны. Макаткі рабіліся на ўласным матэрыяле, вытканым з лёну, а таксама на тоўстай палатнянай тканіне — г.зв. кляёнцы, а таксам на сукне. Выкарыстоўвалі адбелены лён, афарбаваны шэры і чорны. Чорная тканіна, часта надточвалася з некалькіх невялікіх частак. Да вышывання выкарыстоўвалі матэрыялы такія як воўна, бавоўна, мулінэ, ліцо (лясэта), а таксама прымянялі стужкі. Найбольш часта выкарыстоўвалі ліцо і стужку, якія пакрывалі тканіну адным махам, каб сфармаваць кветкавыя элементы, напрыклад, пялёсткі або сцябло. «Ліцо» дадаткова ўзмацняла выгляд матыву светлавымі рэфлексамі. Таксама служыла да абраблення макаткі знізу, і сшывала фрэнзлі. Паўтараецца вышыўка гладдзю. Асаблівая ўвага звернута на вышыўку макатак на чорным фоне. Прыкладам такой макаткі з'яўляецца твор з Янова, які быў створаны ў неіснуючай вёсцы Ялёнцы, а менавіта сланечнікі на чорным фоне — расшытыя ў змешанай тэхніцы: вузялкамі — зерне, а нервы лісця — шнурочкам. Вышываліся яшчэ спосабам вязаным, крыжыкавым, і з лямоўкай — шырокай стужкай, а таксама мярэжкай. Ніжняя частка макатак часта была аздобленая фрэнзлікамі.

Найбольш макатак — з букетамі, перавязанымі стужачкай, кветкамі ў кошыку, кветкамі ў посудзе — у вазах, бутэльках або збанах і з раслінным арнаментам. Можна распазнаць кветкі і расліны, такія як касачы, ружы, бэз, лілеі, макі, сланечнікі, браткі, хрызантэмы, цюльпаны, незабудкі, водныя палкі. Тут і трускалкі ў кошыку. Кошыкі больш ці менш мудрагеліста плеценыя, посуд арнаментаваны. Сярод іх наваколььныя птушкі і жывёлы, як на макатцы з ільвом з Плянты. Са звяроў — буслы, галубы, лебедзі, сарокі, ястрабы і экзатычныя птушкі — паўліны і папугаі. Галубы, сядзячыя сярод кветак на дубчыках і звернутыя адзін да аднаго дзюбамі — сімвалізуюць каханне. Уражваюць паўліны з асабліва доўгімі і маляўнічымі пёрамі. Плаваюць лебедзі, звернутыя адзін да аднаго дзюбамі, на лугавых пейзажах часта з'яўляюцца буслы. Звяртаюць на сябе ўвагу рэалістычныя выявы буслоў з Ялёнкі (сёння Янова). На доўгім шэрым палатне вышытая група буслоў, якія рыхтуюцца да палёту. Аўтарка макатак — Марыя Сакоўская з Ялёнкі, народжаная ў 1912 годзе. Іншы прыклад макаткі — з Семяноўкі — паказвае лясны пейзаж са спрошчаным прадстаўленнем аленя, лані і цяляці сярод елак і дубоў.

Макаткі, капы, настольніцы прадставілі: Кацярына Бяляўская, Антаніна Стульгіс, Багуслава Дрозд, Надзея Закшэўская, Барбара Лісоўская, Людміла Стоцкая, Пётр Карпюк з Нараўкі, Вольга Зданоўская-Місяюк з Нараўкі, Яўгенія Сухадола з Нараўкі, Зінаіда Бяляўская з Гродзіска, Барбара Бірыцкая з Семяноўкі, Галіна Бірыцкая з Плянты, Фелікса Баркоўская з Плянты, Лена Харкевіч з Плянты, Ліда Харкевіч з Лешукоў, Нэля Харкевіч з Новага Ляўкова, Ніна Харашэўская са Старога Ляўкова, Таіса Драўноўская з Міклашэва, Галерэя імя Тамары Саланевіч, Іаланта Гох з Гайнаўкі, Ніна Галубоўская з Новага Ляўкова, Уладзіслаў Грыка з Сушчага Барка, Марыя Крышань з Новага Ляўкова, Галіна Леўша з Янова, Аліна Мацеюк з Семяноўкі, Андрэй Мацюка з Капітаншчыны, Ірына Максімюк з Новага Ляўкова, Бажэна Несцярук з Новага Ляўкова, Галіна Панькоўская з Семяноўкі, Крыстына Паскробка з Новага Ляўкова, Марыя Раманчук з Гушчэвіны, Марыя Раманчук з Альхоўкі, Вольга Раманчук з Гушчэвіны, Алена Рыгаровіч з Тарнопаля, Дарота і Уладзімір Скепкі са Скупава, Валерыя Скепка з Міхнаўкі, Альжбета Сухадола з Сушчага Барка, Валянціна Сухадола з Нараўкі, Вера Сват са Старога Ляўкова, Святліца ў Масеве, Ян Тарасюк з Новага Двара, Галіна Вяжхоўская з Заблотчыны, Аляксандра Засім з Лешукоў, Анна Засім з Семяноўкі, Ніна Засім са Старога Ляўкова, Люцына Зданоўская з Плянты, Яўгіння Зялінская з Лешукоў, Тамара Зубрыцкая з Гушчэвіны.

Запрашаем на выставу падвядзення двух праектаў пад назвай «Чароўны свет макатак» і «Традыцыя Незалежнай на кроснах у даліне ракі Нараўкі» 23 лістапада 2018 г., у 17 гадзіну, у Галерэі Тамары Саланевіч у Нараўцы.

Тэкст і фота
Міры ЛУКШЫ



❖Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Могілкі беларуска-польскай зямлі

Хадароўскія могілкі старэйшыя за віленскую Росу, львоўскія Лычакоўскія ці варшаўскія Павонзкі. Але не толькі ў гэтым заключаецца іх значнасць. Тут з 1591 года хавалі католікаў, пратэстантаў, уніятаў, студзеньскіх паўстанцаў, ахвяр сталінскіх рэпрэсій і камунізму. У канцы на могілках у Новай Хадароўцы спачываюць жыхары навакольных вёсак і гарадкоў. Дзякуючы іхняй веры і сувязі з навакольным светам, тут захавалася шмат каваных і чыгунных крыжоў, якія сведчаць аб даўніне гэтага месца. Гэтыя крыжы непарыўна звязаны з чалавечым лёсам памежнага рэгіёна.

Каталіцкія могілкі ў Новай Хадароўцы на Сакольшчыне таксама з'яўляюцца аб'ектам даследаванняў беларускіх навукоўцаў.

— Крыжы на надмагіллях — гэта прыклад уплыву як усходняй, так і заходняй культуры, — кажа даследчыца старажытных некропаляў у Беларусі Вольга Сямашка. — Я была вельмі ўсхвалявана гэтым момантам, бо пабачыла, як павінны выглядаць гістарычныя могілкі беларуска-польскай зямлі, гэтага памежжа. Там было вельмі шмат каваных і літых крыжоў. І сёння яны сведкі, напамін культуры таго часу, прыкладнога мастацтва.

Для Вольгі Сямашкі могілкі ў Новай Хадароўцы — адкрыццё. На іх тэрыторыі захавалася шмат каваных крыжоў, зробленых мясцовымі майстрамі. І гэтыя ўзоры крыжоў аналагічныя беларускім традыцыйным крыжам.

— На могілках у Хадароўцы захавалася шмат старых крыжоў, выкаваных майстрамі-кавалямі. Датыроўка такіх крыжоў сягае ў пачатак дзявятнаццатага стагоддзя. Крыжы маюць мастацкую каштоўнасць і ўсталяваны вельмі шчыльна адзін за адным. Гэта адзіныя могілкі, дзе крыжы захаваліся ў такой колькасці.



## Народныя майстар сакольскіх крыжоў

Сапраўдныя шэдэўры-крыжы, якія можна сустрэць на сакольскіх могілках, выйшлі з-пад рукі Пятра Радкевіча. Народны майстар нарадзіўся ў вёсцы Акопы — на радзіме блаславёнага кс. Юры Папялушкі. Радкевіч нарадзіўся ў 1884 годзе ў сялянская сям'і. Імя атрымаў па сваім бацьку, які вельмі рана памёр. Ужо як малады хлопец праяўляў мастацкія здольнасці. Сярэднюю школу завяршыў у Гародні. Цяжкая сямейная сітуацыя прымусіла яго з'ехаць за мяжу. Па запрашэнні сваёй цёткі перабраўся ў Амерыку. Там паступіў у семінарыю, аднак пасля трох гадоў вырашыў вярнуцца ў Польшчу і тут працягваць вучобу ў семінарыі. Пачатак Першай сусветнай вайны і цяжкія фінансавыя ўмовы не дазволілі яму завершыць навуку. Жыў ён у брата, дапамагаючы пры гаспадарцы. Таксама вучыў у вясковай школе, але кожны свабодны момант прысвячаў разьбе. Нож, сякера, піла, долата ўласнай работы — гэтымі звычайнымі прыладамі ўмеў стварыць непаўторны крыж або скульптуру. Пятро Радкевіч з'яўляецца аўтарам фігуры Ісуса Хрыста, якая знаходзіцца ў касцёле ў Старой Хадароўцы. На ўваходзе ў святыню вісіць натуральнай велічыні разьба Збаўцы. Твар Хрыста адлюстроўвае боль, смутак, але і годнасць.



Пятро Радкевіч вырэзваў таксама насценныя крыжы, мадонны. Старэйшыя жыхары Хадароўкі лічаць, што амаль у кожнай хаце знаходзілася ягоная праца. З-пад яго долата выйшлі таксама скульптуры св. Яна Непамуцкага і анёлаў. Урэшце Радкевіч з'яўляецца аўтарам велізарных крыжоў на могілках. Эдмунд Габрэль у сваёй кніжцы «Алеямі задумы» піша, што ў 1979 годзе на сакольскіх могілках было яшчэ каля сарака крыжоў, а ў Акопах — пяць. На хадароўскіх могілках крыж стаіць да сёння. Яго стваральнік памёр 1 траўня 1957 года ва ўзросце 73 гадоў. Людзі запамяталі яго як фаната кніжак (сабраў сваю бібліятэку) і дзівака. Пятро Радкевіч свой апошні прытулак знайшоў менавіта на хадароўскіх могілках.

## Паўтысячагоддзя малітваў за памерлых

Паводле Францішка Хаецкага з Новай Хадароўкі найстарэйшыя крыжы, якія знаходзяцца на могілках, памятаюць часы шведскага патопу. Іншыя старажытныя крыжы, якіх і зараз можна сустрэць у Новай Хадароўцы, гэта чыгунныя крыжы, выкананыя ў Штабінскай гуце графа Караля Бжастоўскага. Зараз яны занесены ў спісак помнікаў даўніны. Даваенныя крыжы з каменя, якія можна сустрэць на могілках, часта былі роблены ў блізкай Гародні, а нават у Вільні. На хадароўскіх могілках знаходзіцца асаблівы крыж «прысвечаная ўсім памерлым вернікам — 1872 г.», які сведчыць аб асаблівай рэлігійнасці і ўражлівасці жыхароў гэтага перыяду і гэтай тэрыторыі. Захапляюць таксама крыжы, якія выйшлі з-пад рук Вінцэнта Грабавецкага — народнага майстра-каваля з Дрыгі. Тут спачывае таксама яшчэ адзін мастак па выконванні крыжоў, якія ўпрыгожваюць некропаль. Гэта Станіслаў Юхнейч з Гараднянкі. Аднак цяжка пералічыць усіх народных майстроў, выконваючых каваныя і драўляныя крыжы для хадароўскіх могілак, якія сёння сведчаць аб непаўторнай мастацкай уражлівасці сялянскіх майстроў.

## ФІЛЬМ «КЛІР»

Ніякі польскі фільм, які паўстаў пасля 1989 года, не карыстаўся такой вялікай папулярнасцю і не выклікаў такіх моцных эмоцый, як фільм «Клір» («Kler») знакамітага польскага рэжысёра Войцеха Смажоўскага. Фільм увайшоў у кінапракат 28 верасня 2018 года і за першыя тры дні паглядзеў яго амаль мільён гледачоў ва ўсёй краіне. Зараз мінуў месяц і «Клір» паглядзелі 4 мільёны фанатаў польскага кіно, гэта значыць больш чым два славутыя хіты сусветнага кіно — «Avatar» і «Titanic». Яшчэ пару месяцаў да прэм'еры вестка аб фільме і трэйлер на ютуб узбудзілі шмат эмоцый. У некаторых гарадах Польшчы (напр. Астралэнка, Закапанэ ці Элк) мясцовыя ўлады забаранілі паказваць «Клір» у муніцыпальных кінатэатрах. Дзяржаўныя масмедыі трубілі, што рэжысёр Войцех Смажоўскі не атрымае ні граша на новы фільм, бо ніхто не пойдзе глядзець ягоны «Клір». А тут якраз наадварот, «Клір» ужо зарабіў больш за 80 мільёнаў злотых А зараз пік яго папулярнасці ў Вялікабрытаніі і ЗША.

Чаму папулярны фільм? Сціплы, мудры а перш за ўсё адважны рэжысёр Войцех Смажоўскі прызнае, што «Клір» паўстаў дзякуючы гучнай афёры вакол сексуальных дамаганняў духоўных у адносінах да дзяцей у ЗША. Да таго стагоддзямі накапілася яшчэ больш грахоў Каталіцкага касцёла ў Польшчы: умяшальніцтва ў дзяржаўную палітыку, скандалы з удзелам святароў (напр. здараецца, што каталіцкія ксяндзы, хаця жывуць у цэлібаце, маюць каханак, а з імі дзяцей). Да таго хціваcць ды высокія аплаты за шлюб ці пахаванне. І менавіта гэта ўсё паказана ў фільме «Клір», які я сам паглядзеў у кіно з вялікай зацікаўленасцю, бо фільм зроблены вельмі цікава і вельмі прафесійна. Думаю, што фільм «Клір» у ніякай ступені не абражае веры каталіцкай ці ўвогуле хрысціянства, але паказвае ўсю праўду, якая стагоддзямі накапілася за закрытымі дзвярыма каталіцкіх плябаній.

Ніводзін польскі фільм не выклікаў так моцнай дыскусіі ў польскім асяроддзі. Фільм паглядзелі ўсе мае знаёмыя, незалежна ад веравызнання. Паглядзеў яго мой вельмі добры сябра, які нейкі час таму перахрысціўся з каталіцызму на праваслаўную веру. «Клір» гэта моцны фільм, вельмі кранаючы сэрца і душу, паказвае перш за ўсё крыўду нічога нявінных дзетак, а зараз дарослых людзей, якія ўсё жыццё носяць у сабе сорам, жаль і боль да тых, хто знішчыў іх нявіннае дзяцінства. «У нас такога няма», — кажа мне праваслаўны святар, а я кажу яму: «Таму, што вы маеце жонак, дзяцей». І ў тым уся праўда, што ксяндзы таксама людзі, якія ад часу да часу любяць выпіць гарэлку, паспяваць свецкія песні ці займець каханку. Ксяндзу забаронена мець жонку, а гэта ж мужчына, які таксама мае свае патрэбы. «Нішто чалавечае мне не чужое» — гэта эпіграф фільма «Клір» таму, што ксёндз ніякі святы, толькі звычайны чалавек, які адукаваўся па сваёй прафесіі. А людзі з малой адукацыяй, асабліва з вёсак на Падляшшы, бачаць у каталіцкіх ксяндзах багоў, а гэта ж таксама людзі са сваімі слабасцямі і грахамі як кожны з нас.

**Юрка БУЙНЮК**

## НОЧЧУ

Зараз насталі восеньскія доўгія і цёмныя ночы. На вуліцах шматлікіх вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета з электраўстаноўкамі начнога асвятлення бывае па-рознаму. Нядаўна ў Новым Ляўкове вулічныя электралямпачкі гарэлі вечарам і днём, а солтысу колькі за гэта дасталася. Жанчыны маюць вось такі „сардэчны" падыход : „Мне сэрца баліць, калі гарыць электралямпачкі ўвесь дзень ад раніцы да вечара". Удалося ўтаймаваць іх (электралямпачкі) ажно на трэці дзень, нарэшце ў нашу вёску прыехалі электраманцёры.

Неабходна завінціць новыя электралямпачкі на вуліцах, між іншым, у Новым Ляўкове (на пачатку вёскі) і ў Плянце (на павароце дарогі, дзе канец Плянты і пачатак Новага Ляўкова) ды на некаторых вуліцах у Нараўцы (тут апрача вуліц Гайнаўскай, Міцкевіча і Новай). І тады будзе больш бяспечна ездзіць і хадзіць па вуліцах вечарам і ноччу. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Гліняная гісторыя -маляванка

Размалюйце!



Часта ў нашых крыжаванках выступае слова ЗБАН. Калі пішам літаркі, у галаве ўзнікае гліняная пасудзіна з арнаментам або кветкамі. Гліняная пасуда надта трывалая. Яе знаходзім у старажытных курганах ды па ўзорах вызначаем стагоддзе і культуру, да якой прыналежалі пахаваныя ў магіле-кургане людзі. Гэта наша метрыка, пасведчанне тоеснасці.

Мы таксама любім гуляць з глінай і ляпіць з яе прадметы на розных фэстах і майстар-класах. Магчыма, гэты занятак «памятаюць» рукі. Калісь амаль усю пасуду ляпілі рукамі. Пасля з'явіўся ганчарны круг і каменная печ-горан, у якой абпальвалі кераміку.

Яшчэ да 70-х гадоў XX стагоддзя так на Падляшшы, як і ў Беларусі працавалі майстэрні ручной вытворчасці керамікі. У кожным месцы быў свой характэрны почырк — формы рэльефаў і ліній, спосабы лепкі і роспісу.

Сёння прапануем вам маляванку аўтарства Алены Шалімы са збанам і тканінамі ў народныя ўзоры. Гэта свайго роду падарожжа ў глыб гісторыі ганчарства, якая дрэмле ў руках кожнага з нас.

**Зорка**

## Загадкі з роднай хаткі

**УВАГА КОНКУРС! № 46-18**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 25 лістапада 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Чырвоная і сакавітая,**
**Надта кіслая ўсё лета.**
**А як прыпячэ мароз,**
**Птушкам будзе смакавітай.**
**К.....**

**Адказ на загадку № 42: ліст.**
**Узнагароды, наклейкі, выйгралі** Моніка Суровец, Кароль Гелда, Яраслаў Бароўскі **з Бабік,** Сара Марціновіч, Лукаш Дзюбанос, Дам'ян Дзітрук **з Орлі. Віншуем!**

(Байкі сярэдднявечнай Арменіі)

# Смерць арла

Лятаў арол шызакрылы — цар птушынага роду і ўсёй прасторы. Усе птушкі білі яму паклоны, прыносілі дары, славілі і хвалілі. І ён сам, як належыць цару, шырока распасціраў крылы і панаваў у цэлым небе.

Аднойчы, калі кружыў над зямлёй, яго цела прабіла страла.

Арол здзівіўся:

— Хто ж такі наважыўся страляць у птушынага цара?

Ён угледзеўся ў стралу і пабачыў там сваё пяро. І зразумеў усё:

— Бяда мне, — загаласіў цар, — згубілі мяне ўласныя пёры і шызакрылая слава.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Іван Юклеўскі

## Хвалько

Звонка ціўкаў верабей:
— Я за ўсіх, за ўсіх дужэй!
Лётаў неяк я за Ніл,
бачу — выпаўз кракадзіл.
Я адразу пад кустом
прагльнуў яго з хвастом.
Чык-чырык, чык-чырык!
Жартаваць я не прывык.
А ля нашага двара
я зланіў арла-цара.
Так яго ўжо трыбушыў –
ледзь жывога адпусціў.
І з арламі, чык-чырык,
ладзіць жарты не прывык!
Вераб'іха стогне:
— Ох!
Пустаплёт і скамарох!
Толькі з мухамі герой –
На двары і пад страхой.

## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Цудоўны настаўнік

Маго дзядулю завуць Павел Ёдла.

Жывеёну прыгожай, хаця маленькай беларускай, праваслаўнай вёсцы Вуолька ў Арлянскай гміне. Яму ўжо 84 гады і я вельмі люблю з ім размаўляць. Гэта ён зацікавіў мяне гісторыяй нашага Падляшша, гісторыяй сям'і.

Дзядуля вельмі цікава і каларытна расказвае пра свае маладыя гады, пра службу ў войску. У цяжкія, пасляваенныя гады ён даслужыўся афіцэрскага звання паручніка. Мне цікава слухаць, калі ён апавядае пра хлопцаў з беларускіх вёсак Падляшша, якіх ён школіў у Бельску.

Дзядуля вельмі любіў працу з моладдзю, таму ахвотна стаў настаўнікам у Парцаве. Мяне здзівіла, што ён навучаў амаль усіх прадметаў і яны выкладаліся на беларускай мове.

Як жа гэтая школа рознілася ад нашай, сучаснай!

Дзядуля кажа, што людзі жылі вельмі бедна, але моладзь была вясёлай і хацела вучыцца. Настаўнік быў вялікім аўтарытэтам. Не толькі для вучняў — але і ўсёй вёскі...

Мой дзядуля ўсё жыццё любіў працу на гаспадарцы. Калі яго браты з'ехалі ў горад, ён не мог змірыцца, што бацькоўская зямля застанецца без гаспадара. Кінуў працу настаўніка і вярнуўся гаспадарыць у Вуольку.

Дзядуля ўжо на пенсіі. Ён вельмі любіць чытаць кніжкі. Уявіце сабе — ён па сённяшні дзень чытае без акуляраў. Гэта ён заахвочвае мяне ўзяць кніжку ў рукі, прачытаць цікавыя рэчы. Калі я была малая, ён сам многа для мяне чытаў, а ў гэтай справе ён сапраўды майстра.

Дзядуля вельмі любіць прыроду. Ён часта ходзіць у лес, збірае сухое галлё і робіць з яго пучкі. Тады адпачывае, слухае спеў птушак.

Мой дзядуля гаворыць па-свойму. Гэта ад яго, яшчэ ў часы дзяцінства, я навучылася размаўляць па-нашаму.

Я для дзядулі вельмі дзякую за тое, што ён цудоўны чалавек.

Дарагі дзядуля — жыві нам сто гадоў!

**Паўліна ЁДЛА**



*Паўліна ЁДЛА*



*Паўліна і дзядуля Павел вачыма дзяцей з «Тройкі»*



*Павел ЁДЛА*

## Польска-беларуская крыжаванка № 46-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 42-2018: Спорт, брат, кавалак, павуціна, веласіпед, учора, атрад, на, не, лёт, адмова, сіла. Абы, вушка, печ, закалот, тавар, но, вусач, маці, на, ліпа, планета, кадр, Лі, анёл, тата, дата.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Віялета Смалюк з Арэшкава, Наталля Касцюк, Раксана Сасна з Орлі, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага, Зося Якімец, Марыюш Радэль, Мацей Дзярманскі з Залук, Марта Болтрык з Міхалова, Моніка Суровец з Бабік. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Braciszek | Eliza | Łapy | | | | | Lask / Bocian | | Bukiet | | Parnas |
| Naleśnik | | | | | Kawałek / Dzban | | | | | | |
| Raz | | | | Dźwięk | | | | | | | |
| | | | | Basen | | | | | | | Rosa |
| Kapa / No | | | Bandaż / Balet | | | | | | Ara | | |
| | | Finał / Fin | | | | | | Osa | | | |
| Klin | | | | | | | Ar | | | | |
| Anty | La | | | | | Praca | | | | | |

# Пра пасляваеннае жыццё **Лукаша Дзекуць-Малея** ў Польшчы (невядомы беластоцкі перыяд)

Калі я ў 1999 г. адкрыла для сябе і Беларусі, што Лукаш Дзекуць-Малей пахаваны на могілках у Гданьску і што памёр таксама ў гэтым горадзе ў 1955 г., а не ў Амерыцы, як пісалася ў „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”[1], парадаксальна вельмі мала было вядома пра яго пасляваеннае жыццё[2]. Тады аказалася, што ў ЗША ён ніколі не быў, але там у эміграцкай газеце „Беларус” Антон Шукелойць змясціў пра яго кароткі ўспамін пасля смерці, пішучы што „кагадзе дайшла вестка, што 20 студзеня 1955 году памёр Лукаш Дзекуць-Малей, ведамы беларускі пратэстанцкі дзеяч, ініцыятар і адзін з перакладнікаў Новага Запавету ў сучасную беларускую мову”[3]. У артыкуле няма пададзенага месца смерці, ні адкуль прыйшла сумная вестка. Зразумела чаму — гэта быў яшчэ 1955 г. і пэўна з-за асцярожнасці пра гэта не згадвалася. У 1974 г. Гай Пікарда з Лондана ў эміграцкім часопісе „Божым шляхам” у артыкуле „The Heavenly Fire” напісаў: „Pastor Dziekuć-Malej died in America in 1955...”[4]. Відаць гэтай памылковай звесткай пакарысталіся аўтары энцыклапедычнага артыкула.

У 1999 г. пасля сустрэчы з сынам Л. Дзекуць-Малея — Данілам і асяроддзем хрысціян-баптыстаў у Гданьску і Беластоку ўдалося ўстанавіць некаторыя біяграфічныя факты з жыцця прэсвітара. Вывучыўшы гісторыю гданьскага збору, я даведалася, што 16 сакавіка 1947 г. (паводле справаздачы для ўлад 1 сакавіка 1947 г.[5]) Л. Дзекуць-Малей стаў прапаведнікам збору і акруговым прэсвітэрам у Гданьску[6]. 13 ліпеня 1947 г. у моры ў Бжэзьне (квартал Гданьска) ахрысціў 11 асоб, між іншым і Уладзіміра Жултко, з якім мела прыемнасць таксама пазнаёміцца. Ён мне расказаў, як пасля Другой сусветнай вайны, працуючы ў Дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай управе (Państwowy Urząd Repatriacyjny — PUR) у Гданьску, аднойчы з'явіўся ў ім Л. Дзекуць-Малей[7]. Мог быць гэта прыблізна 1946 г., бо з гэтага часу захаваліся гданьскія здымкі Л. Дзекуць-Малея з братамі па веры Пётрам Жултко і Яўгеніюшам Саем[8]. У гданьскім зборы хрысціян-баптыстаў апынулася шмат даваенных знаёмых Л. Дзекуць-Малея з Палессея і Віленшчыны. Мог разлічваць на іх дапамогу і падтрымку, бо яго сям'я: жонка Сэрафіна з сынам Данілам і дочкамі Сэрафінай і Альжбетай да чэрвеня 1946 г. былі ў сібірскай ссылцы. Тады прыехалі ў Бельск-Падляшскі і там затрымаліся на пэўны час. Там 1 верасня 1946 г. дзеці былі ахрышчаны. Л. Дзекуць-Малей забраў сям'ю ў Гданьск, дзе да 31 сакавіка 1949 г. быў прапаведнікам. Гэтага дня быў адхілены ад пасады. З пасляваеннага перыяду жыцця Л. Дзекуць-Малея напэўна вядомым дасюль было яго служэнне ў зборы баптыстаў з сакавіка 1947 г. па красавік 1949 г. Гэта раптам толькі 2 гады на ўсе 10 гадоў драматычнага пражывання пасля заканчэння Другой сусветнай вайны.

Пасля публікацыі майго тэксту ў тыднёвіку беларусаў у Польшчы „Ніва” ў 1999 г. адгукнулася на яго некалькі асоб. Янка Жамойцін перадаў мне пратакол другога Усебеларускага кангрэсу ў Менску з чэрвеня 1944 г. У драматычнай на той час сітуацыі беларускага незалежніцкага руху Л. Дзекуць-Малей прамаўляў на ім ад імя евангельскіх хрысціян баптыстаў: „Вітаю Вас, сп. Прэзыдэнт, дэлегаты і госьці ад імя Грамады Эвангельскіх Хрысьціян-Баптыстаў і выражаю сваю радасьць, што сягоньня мы маем магчымасьць сабрацца ў адпаведным будынку, бо да гэтага часу мы працавалі ў падпольлі. Я няраз прасіў Бога, каб ён памог нам мець свабоду. Успамінаючы адыйшоўшых ад нас загінуўшых за Беларускі Народ: праф. др. Вацлава Іваноўскага, рэдактара Уладыслава Казлоўскага і іншых, я прапаную ўшанаваць іх. Я прашу Бога дапамагчы нашаму Народу знайсьці Бога, бо толькі з такой



Лукаш Дзекуць-Малей (1888-1955)

дапамогаю магчыма атрымаць волю. Нас, баптыстаў, нямнога, яшчэ за цара мы былі прасьледаваны, цяпер у Беларусі мы жывем вольна. На заканчэньне я прашу Бога дапамагчы жыць, а мо і галаву палажыць”[9]. Пасля Кангрэсу большасць яго ўдзельнікаў уцякла ў Нямеччыну, баючыся надыходзячай савецкай арміі. Відаць з імі падаўся ў Нямеччыну і Л. Дзекуць-Малей, хаця ў сям'і захавалася памяць пра вываз немцамі ў канцэнтрацыйны лагер. Магчыма такую версію, бяспечную ў пасляваенны перыяд Л. Дзекуць-Малей перадаў сям'і, якая вярнулася з Сібіры.

Вітаўт Кіпель з ЗША падаслаў мне са збораў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва копію пісьма Л. Дзекуць-Малея ад 13 студзеня 1945 г., пісанага ім з Нойбрандэнбурга да пастара Яна Пятроўскага. У ім Л. Дзекуць-Малей пісаў: „Дарагі браце ў Хрысце! Атрымаўшы ад Вас ліст дужа ўцешыўся. Хаця з пераменаю маяго местанаходжаньня, нажаль, толькі што атрымаў. Вітаю Вас з Новым Годам 1945 г. Каб у гэтым Новым Годзе Бог дапамог быць нам на сваёй мілай многапакутніцы Беларусі. Каб маглі працаваць на той працы, якой прагне наша душа. Каб сьвятая Эвангельля магла знаходзіцца ў кожнай хаце. Каб сьвятло нашага Госпада засьвяціла ўва ўсе куткі нашай Маці-Беларусі. Новы Запавет з пс. (псалмамі — Л. Г.) ужо быў надрукаваны. Хаця ўжо ўвесь застаў вычарпаны. Ляжала ўжо даўно думка на маім сэрцы, каб наш народ меў, як і другія народы, поўную Біблію. Шукаю дзеля гэтага ўсе магчымасьці і дужа ўцешыўся, што і сп. Pastar хоча дапамагчы, каб была і ў нашым народзе Біблія на бел. мове. Хацелася б чуць ад Вас больш аб гэтым. А можа Госпад дапаможа быць у Бэрліне і асабіста пагаварыць у гэтай вялікай справе. Мая жонка з трайма дзяцьмі застала ў 1941 годзе вывязяна бальшавікамі ў Сібір і не магу перадаць Вашага мілага прывітаньня. З пашанаю Ваш Л. Дзекуць-Малей”[10].

Пабыўку Л. Дзекуця-Малея ў пачатку 1945 г. у Нойбрандэнбургу пацвярджае звестка, пададзеная Сцяпанам Пекунам пра захаваную паштоўку (з навагоднімі віншаваннямі), дасланую тады Вользе Дэнісюк, якая пражывае ў Беларусі ў вёсцы Малеч Бярозаўскага раёна. На паштоўцы пададзены быў зваротны адрас: Neubrandenburg, Turmstr. 6[11]. Гэта фактычна адзіныя пакуль канкрэтныя звесткі пра пабыўку Л. Дзекуць-Малея ў Нямеччыне. З першай з іх вынікае, што ў Нямеччыне мяняў ён месца жыхарства. Ці сустрэўся там са сваім старэйшым сынам Лукашам, які пасьля Другой сусветнай вайны жыў у Нямеччыне і працаваў лекарам?

У 2000 г. я напісала ў беластоцкай „Ніве”: „Як і калі Л. Дзекуць-Малей пакінуў Нямеччыну астанецца, пэўна, неразгаданай таямніцай, якую забраў з сабою ў магілу. Вяртанне ў Польшчу таксама з'яўляецца загадкай. Пакуль затрымаўся ў Гданьску (у 1947 г.), быў таксама на Беласточчыне, дзе меў знаёмых вернікаў баптыстаў”[12]. Былая журналістка „Нівы” Вера Валкавыцкая (з дому Леўчук) распавяла, што яе бацькі, якія жылі ў Орлі на Беласточчыне, часта гасцілі ў сябе Л. Дзекуць-Малея пасля Другой сусветнай вайны. У яе хатнім архіве захаваліся здымкі з ім і робленыя ім з 1946 г. Паводле яе прабываў ён тады на Беласточчыне[13].

З дакументаў і сямейных памятак з хатняга архіва ўнучкі Л. Дзекуць-Малея — Альжбеты вынікае, што пакуль трапіў ён на Беласточчыну, затрымаўся на Памор'і ў мястэчку Ліпіны (зараз Ліпяны) Пыжыцкага павета, дзе пляменнік яго жонкі — Герман Ягнешко быў войтам[14]. Праўдападобна ў Нямеччыне быў да канца вайны — да мая 1945 г. Рашэнне вярнуцца ў Польшчу вынікала са свядомасці, што яго сям'я знаходзілася на той час у Сібіры. Таму магчыма вырашыў не падавацца ў эміграцыю на Захад. Пасля заканчэння вайны ў маі 1945 г. апынуўся ў Ліпінах і да 18 жніўня 1945 г. быў кіраўніком персанальнага рэферата пры паватовай камендатуры Грамадзянскай міліцыі (Komenda Powiatowa Milicji Obywatelskiej)[15]. З 1 верасня 1945 г. да 2 лютага 1946 г. працаваў у Гмінным праўленні (Zarząd Gminny) ў Ліпінах. Як сцвярджаў у пасведчанні войт Г. Ягнешко «obowiązki swe pełnił sumiennie i dobrze. Niniejsze zaświadczenie wydaje się ob. Dziekuć-Malejowi na skutek wyjazdu do Bielska Podlaskiego, jako stałego miejsca pobytu”[16]. У манаграфіі пра Ліпяны не ўпамінаецца Л. Дзекуць-Малей, хаця даволі дакладна там апісаны перыяд 1945-1950 гг. Згадваецца толькі войт Г. Ягнешко, які быў арыштаваны ў верасні 1946 г.[17], але як вынікае з дакументаў далей быў войтам у маі 1947 г.[18] Магчыма ў Ліпінах пачыналася рабіцца небяспечна — прыязджалі рэпатрыянты з Усходу — з Савецкага Саюза і Л. Дзекуць-Малей не хацеў быць ідэнтыфікаваны некім як беларус і баптыцкі прапаведнік. З захаваных дакументаў вынікае, што пасля вайны падаваў польскую нацыянальнасць і грамадзянства, якое пацвярджалі Г. Ягнешко і Павал Фролаў[19].

Шмат новага пра пасляваенны перыяд жыцця Л. Дзекуць-Малея раскрываецца ў дакументах польскай службы бяспекі, якія зараз захоўваюцца ў архіве Інстытута нацыянальнай памяці ў Варшаве. Аказваецца з 1947 г. Л. Дзекуць-Малей знаходзіўся пад пільным наглядам з боку органаў дзяржаўнай бяспекі. „Ксёндз Біблія” 26 сакавіка 1947 г. у агентурным даняcенні сцвярджаў, што Л. Дзекуць-Малей — пастар баптыстаў быў членам Беларускага камітэта і даўгалетнім супрацоўнікам нямецкай выведкі[20]. Далей інфармаваў: „Obecnie zamieszkuje w Bielsku-Podlaskim i kryje się przed władzami. Poszukiwany przez władze bezpieczeństwa w Brześciu n/Bugiem”[21]. У архіўных дакументах польскай бяспекі можна знайсці звесткі, што Л. Дзекуць-Малей выехаў у Гданьск у студзені 1947 г., магчыма ў сувязі з зацікаўленнем яго асобай адпаведных службаў у Брэсце, а затым у Польшчы — у Міністэрстве публічнай бяспекі і ў ваяводскай і паватовай управах публічнай бяспекі ў Беластоку і ў Бельску-Падляшскім. Паводле выведкі Паватовай управы публічнай бяспекі (ПУПБ) у Бельску-Падляшскім (падпісанай яго старшынёй паручнікам Шчавінскім) наконт Л. Дзекуць-Малея з мая 1947 г. вынікае, што „przyjechał z zachodu do Bielska w 1945 r. z jakiej miejscowości nie ustalono. Z rodziny żony siostry, syn jest wójtem na zachodzie, nazwisko nie wiadome i gdzie również nie ustalono”[22].

Паколькі Л. Дзекуць-Малей выехаў у Гданьск, тамтэйшая Ваяводская управа публічнай бяспекі таксама атрымала заданне здабыць весткі пра яго. Паводле інфармацыі, напраўленай 15 сакавіка 1948 г. у Міністэрства публічнай бяспекі „kaznodzieja Dziekuć-Malej dnia 22.III.47 r. przybył do Gdańska z miejscowości Bielsk-Podlaski z ulicy Kazimierzowskiej Nr. 14 i zamieszkał chwilowo Gdańsk-Siedlice przy ul. Wesołej 12 u ob. Tesluk Andrzeja (tego samego wyznania) w charakterze sublokatora”[23]. Як вынікае з вышэй прыгаданых дакументаў Л. Дзекуць-Малей, выехаўшы ў студзені 1947 г. з Бельска-Падляшскага ў Гданьск, даехаў толькі ў другой палавіне сакавіка. Відаць праз гэты час — ад студзеня да 22 сакавіка недзе скрываўся, чакаючы пасады пастара ў Гданьску. 8 мая 1947 г. перасяліўся на вуліцу Дамброўскага 11, куды таксама прыехала з Бельска жонка з дзецьмі[24]. Што цікава, Л. Дзекуць-Малей на той час не меў ніякіх дакументаў, апрача пасведчання святара (№ 29), выдадзенага 1 снежня 1945 г. Галоўнай радай Польскага касцёла евангельскіх хрысціян-баптыстаў у Варшаве[25]. Жонка з дзецьмі мелі эвакуацыйную карту № 11865, выдадзеную 11 мая 1946 г. мешанай польска-савецкай камісіяй у Барнауле[26]. Як сцвярджаецца ў згаданым дакуменце, Л. Дзекуць-Малей „opowiada sąsiadom, że na teren Gdańska przybył ze Lwowa”[27].

На працягу двух гадоў душпастырскай працы ў Гданьску Л. Дзекуць-Малей распрацоўваўся бяспекай і быў падазроны ў антыдзяржаўнай накіраванасці („podejrzany o nastawienie antyp. inwigilowany przez W.U.B.P. Gdańsk (...) z dn. 26.8.47 r.”)[28]. Паводле дакументаў ВУПБ у Гданьску Л. Дзекуць-Малей падтрымліваў кантакты з Дацкім, Шведскім і Англійскім Чырвоным крыжам і з амерыканскім консульствам, „często zatrzymywały się pod jego domem samochody tych państw i był odwiedzany przez przedstawicieli pod pozorem dostarczenia darów”[29]. Здаецца зараз ясным, чаму перастаў быць пастарам у Гданьску з канцом сакавіка 1949 г.

Л. Дзекуць-Малей у 1950 г. быў ужо пастарам у Беластоку. 1 красавіка 1950 г. пачалася яго агентурная распрацоўка, якой бяспека надала крыптанім „Д”[30]. Паводле звесткі з дакумента бяспекі (праўдападобна з 1950 г.) Л. Дзекуць-Малей «utrzymuje szerokie kontakty w kraju i zagranicą, ostatnio został przeniesiony na teren Białystok rzekomo dla uaktywnienia sekty”[31].

Паводле аднаго з агентурных даносаў «Жаброўскага» ад 20 чэрвеня 1950 г. на Л. Дзекуць-Малея, быў ён беларусам, які «po wojnie gdzieś w r. 1922-23 wypłynął jako działacz białoruskiej Hromady w Polsce. Był członkiem Komitetu. Przed rozgromem Hromady przez Meysztowicza zrywa z Hromadą i obejmuje stanowisko okręgowego pastora baptystów w Brześciu n/Bugiem. W ten sposób związuje się z Niemcami”[32]. Агент «Белы» з асяроддзя хрысціян-баптыстаў інфармаваў службу бяспекі пра з'езд моладзі баптыстаў, які праходзіў у Беластоку з 28 па 29 мая 1950 г. Вёў яго Л. Дзекуць-Малей[33]. Інфармаваў таксама (супольна з агенткай «Патрыёткай»), што «do Białegostoku przybył na stałe Dziekuć-Malej Łukasz, który będzie przewodniczącym Białostockiego zboru baptystów, na razie Dziekuć-Malej zatrzymał się u Iwaniuka Mikołaja, kaznodziei zboru białostockiego, ponieważ mieszkanie, jakie miał zająć Dziekuć-Malej zajęte jest przez Spółdzielnię bieliźniarsko-krawiecką mieszczącą się w tym samym domu, czynione są starania opróżnienia tego mieszkania przez Spółdzielnię, by Dziekuć-Malej mógł w nim zamieszkać. Narazie w/w nigdzie w teren nie wyjeżdżał. W związku z powyższym nastawiono agenturę jak „Patriotka”, „Biały”, „Kruk”, „Grzebień” i „Szczery” na ustalenia kontaktów w/w, oraz jego wypowiedzi

i terminy wyjazdów w tereny, a także dawane nastawienia zborowi Białostockiemu”[34]. Як вынікае з дакументаў для распрацоўкі Л. Дзекуць-Малея былі выкарыстаныя найбольш давераныя і блізкія яму асобы, якія адначасова супрацоўнічалі са службай бяспекі: «Шчыры», «Патрыётка», «Белы»[35].

23 мая 1950 г. Міністэрства публічнай бяспекі Польшчы выслала пісьмо ў Ваяводскую ўправу публічнай бяспекі ў Беластоку з дас'е на Л. Дзекуць-Малея і з заданнем яго актыўнай распрацоўкі: «należy wziąć w aktywne rozpracowanie Dziekuć-Maleja na Waszym terenie. Obowiązkowo należy zdobyć poważnego agenta. Zastanowić się nad wykorzystaniem Iwaniuka. Ponieważ Wydział III Dep. V MBP prowadzi na w/w rozpracowanie kontrolne wobec czego proszę nadsyłać do MBP odpisy wszelkich uzyskanych materiałów, doniesień itp.”[36]
У сувязі з гэтым пачаліся збіраць розныя матэрыялы пра Л. Дзекуць-Малея, дапытваліся наконт яго розныя баптысцкія дзеячы і вернікі: Міхал Рэмжык[37] (ведаў Л. Дзекуць-Малея з 1922 г. з Беластока), Людвік Шэндэроўскі[38] (знаў Л. Дзекуць-Малея з 1925 г. з Брэста). У службовай занатоўцы ад 18 снежня 1950 г. нейкі ураднік Міністэрства публічнай бяспекі пасля размовы з Ваяводскай управай публічнай бяспекі ў Беластоку запісаў: «Dziekuć-Malej przełożony zboru Baptystów w Hajnówce nie ma autorytetu wśród swoich współwyznawców. Uważany jest za dyktatora, nie liczy się ze zdaniem swych członków, którzy chcieli go nawet wyrzucić ze stanowiska przewodniczącego, lecz on sam odejść nie chce. Śpi w domu modlitwy, gdzie często sam tylko gra na pianinie. Sekc. III pod w/w agentury nie posiada. W bm. ma być zawerbowany agent z najbliższego otoczenia Dziekucia-Maleja”[39].

16 мая 1951 г. ВУПБ у Беластоку інфармавала Міністэрства публічнай бяспекі ў Варшаве пра сітуацыю ў зборы баптыстаў у Беластоку. Звярталася асаблівую ўвагу на дзейнасць Л. Дзекуць-Малея: «Przewodniczący zboru babtystów w Białymstoku Dziekuć-Malej Łukasz już w dniu 22 kwietnia 1951 podczas nabożeństwa w kaplicy babtystów w Białymstoku wygłosił kazanie o treści następującej: „że rzekomo jest bliskie przyjście Chrystusa”, nadmieniając przy tym, „że kiedy będą mówić pokój, pokój i bezpieczeństwo to nagle zginienie przyjdzie”. Następnym faktem, jaki miał miejsce dnia 13 maja b.r. również na nabożeństwie w kaplicy przy ul. Kraszewskiego Nr. 11, podczas którego Dziekuć-Malej Łukasz odczytał zborownikom odezwę Rady Naczelnej Babtystów wzywającą wszystkich wyznawców do poparcia akcji Plebiscytowej i wzięcia w niej samym udziału, w której jednocześnie była mowa ażeby odczytujący ją wyjaśnił znaczenie akcji Plebiscytowej, tak żeby każdy zrozumiał. Po odczytaniu takowej Dziekuć-Malej Łukasz wypowiedział się „przeczytałem ją dlatego, gdyż przesyłając ją do mnie zmusili mnie ją odczytać”. Na tymże samym zebraniu Dziekuć-Malej Łukasz upoważnił swego poplecznika Popławskiego Aleksandra członka tegoż zboru do wygłoszenia kazania. W trakcie wygłaszania kazania Popławski powiedział do zebranych „nie to jest pokój co ludzie budują i nie zbudują, a pokój jest ten który zbuduje Bóg, a między innymi dodał „krzyczą pokój, ale oni tego nie uczynią, bo bezbożniki muszą zginąć, a to co oni krzyczą, to jest ich ostatnia deska ratunku, ale ta deska ich nie utrzyma”. Później zacytował werset biblijny o brzmieniu następującym „kiedy będą mówić pokój to nieoczekiwanie przyjdzie zagłada ludziom”. W ostatnich słowach chcąc zamaskować to co powiedział, oświadczył niech nasza młodzież idzie po ulicach i śpiewa tak jak to robi inna młodzież, która chodzi po ulicach i śpiewa”[40].

Як вынікае з дакументаў Л. Дзекуць-Малей у Беластоку не меў сталага месца пражывання. Таму начаваў у розных асоб — у Антона Андрэйчука, Анастасіі Енеральчук, Васіля Місюлі, Мікалая Патапа і ў Мікалая Іванюка[41]. У сувязі з сітуацыяй, звязанай з адсочваннем членаў збору за Л. Дзекуць-Малеем, у 1951 г. памяняў ён старых супрацоўнікаў збору і паставіў на пасады сваіх прыхільнікаў. Сам быў вельмі асцярожны, як пісалася ў дакументах бяспекі: «przed nikim się nie zwierza, ostrożny w rozmowie, skryty, nigdy nikomu nie podaje dokąd wyjeżdża”[42]. Хаця духоўныя ўлады не дазвалялі яму выязджаць з Беласток, ён часта ездзіў у Бельск-Падляшскі да Яна Мацкевіча[43]. У Беластоку акружала яго агентура бяспекі, якая выводзілася з членаў баптысцкага збору. Пра агентаў вакол Л. Дзекуць-Малея пісалася: «Agentura istniejąca w rozpracowaniu Dziekuć-Maleja rekrutuje się przeważnie z osób źle ustosunkowanych do niego i nie cieszy się zaufaniem u niego, prócz jednego agenta (I. M.), który ma możliwości głębszego rozpracowania Dziekuć-Maleja, gdyż jest jednym z najbardziej zaufanych Dziekucia-Maleja jednak dotychczas nie dał kompr-mat na niego i wg analizy dotychczasowej współpracy z agentem prawdopodobnie jest on dwulicowcem”[44]. Магчыма, што таямнічым «І. М.» быў Мікалай Іванюк.

Паводле загаду Міністэртва публічнай бяспекі Польшчы і ў Беластоку, і ў Гданьску збіраліся інфармацыі пра Л. Дзекуць-Малея — пра яго мінулае і актуальнае жыццё і дзейнасць. Дапытваны 30 мая 1951 г. Язэп Валюкевіч, які быў 13 мая 1951 г. у зборы баптыстаў па вуліцы Крашэўскага ў Беластоку, расказаў пра набажэнства, падчас якога Аляксандр Паплаўскі казаў пра «мір Хрыстусовы», а Л. Дзекуць-Малей прачытаў ліст Галоўнай рады баптыстаў у Польшчы[45]. 23 чэрвеня 1951 г. Міністэрства публічнай бяспекі звярталася ў Ваяводскую управу публічнай бяспекі даслаць у Варшаву характарыстыкі членаў Польскага касцёла хрысціян-баптыстаў, якія кантакталіся з Л. Дзекуць-Малеем і праходзілі ў агентурных матэрыялах на яго. Сярод іх пералічваліся: Піліп Вакула, Язэп Самастой, Васіль Місюля, Аляксандр Паплаўскі, Мікалай Потап, Чарняўскі, Калісевіч, Ян Карповіч, Рыгор Краснапольскі, Антон Андрэйчук, Лявон Пракопчук, Анастасія Енеральчук[46].

Пры тым выклікаліся на допыты знаёмыя Л. Дзекуць-Малея з асяроддзя хрысціян-баптыстаў. Адным з іх быў Станіслаў Кракевіч, які пазнаёміўся з ім яшчэ перад вайной. На допыце 13 жніўня 1951 г. ён сказаў пра паваенны лёс Л. Дзекуць-Малея: «Dziekuć poinformował mnie, że powrócił do Polski z Berlina w styczniu 1946 r. jako repatriant z Zachodu. Przed powrotem do kraju nawiązał on kontakt z Kircunem, który zawiadomił go o sytuacji w Polsce i wezwał do powrotu celem kontynuowania dalszej pracy w zborach baptystów. Po przyjeździe do Polski Dziekuć początkowo został skierowany przez Kircuna do pracy na terenie Bielska-Podlaskiego a następnie objął funkcje kaznodziei w Gdańsku. Ostatnio jak mi wiadomo od wyznawców Dziekuć został mianowany przez Kircuna kaznodzieją rejonowym”[47]. 22 жніўня 1951 г. нехта «Пасланец» (тайны супрацоўнік бяспекі, праўдападобна з асяроддзя баптыстаў з Лодзі) рапартаваў, што Л. Дзекуць-Малей «po wyzwoleniu znowuż ukazał się na terenach Polski Ludowej i obecnie wchodzi w skład Głównego Zarządu Baptystów w Warszawie. Syn jego starszy znajduje się w zachodniej strefie Niemiec. Po wyzwoleniu w 1946 r. zjawił się w Łodzi — zapytałem jego, gdzie zamieszkuje, powiedział, że na odzyskanym terenie — miasta nie przypominam — rodzina wówczas była w Związku Radzieckim. Jechał do Warszawy do Kircuna, jako do prezesa Chrześcijan Baptystów, który go przyjął do kaznodziejskiej pracy”[48].

Нехта «Жаброўскі», які вельмі добра ведаў Л. Дзекуць-Малея яшчэ з 1922 г. з пасяджэння Галоўнага праўлення польскіх баптыстаў, 29 жніўня 1951 г. прадставіў яго як вельмі здольнага пастара, беларуса па паходжанні, былога члена Беларускай грамады, які зараз адмовіўся ад беларускай дзейнасці і прысвяціўся поўнасцю працы на карысць баптыстаў. Звяртаў увагу на яго агромныя ўплывы сярод беларусаў[49]. Рапартаваў, што падчас нямецкай акупацыі Л. Дзекуць-Малей навязаў кантакт з Беларускім камітэтам, «aczkolwiek Brześć należał do Ukrainy. Sam Dz. Malej był przeciwnikiem ukraińców i wszystkich odcieni i grup”[50]. Пра пасляваенны перыяд і кантакты з Л. Дзекуць-Малеем гаварыў, што сустракаўся з ім некалькі разоў на з'ездах баптыстаў: «Widziałem go w Ustroniu w r. 1947 wraz z Patrykiem. Później Patryk gościł u Bajeńskiego w Gdańsku i nocuje u Bajeńskiego, a to było w jednym domu, wstępował do Dz. Maleja. Ponieważ u Dz. Maleja i Kircuna wyszły niesnaski, Patryk doradził Dz. Malejowi ustąpić z Gdańska i wyjechać do Białegostoku. Sam Patryk to opowiadał. (...) Doradzanie Dz. Malejowi objęcia pracy baptystów w Białymstoku naturalnie nie było przypadkowe. Patryk potrzebował go właśnie tam, a nie gdzie indziej. (...) Oto Patrykowi najwięcej zależy, aby on miał tu wypróbowanych wrogów władz i demokracji ludowej, do których on, czy kto inny w każdej porze dnia i nocy mógł zapukać do okienka”[51].

Распрацоўка Л. Дзекуць-Малея службай бяспекі прыносіла жаданыя вынікі. Сярод вернікаў знайшліся такія, якія рабілі ўсё, уключна з рапартамі для бяспекі, каб пазбыцца яго з Беластока. Са справаздачы беластоцкай бяспекі за лістапад 1951 г., якая сярод баптыстаў мела сваіх тайных супрацоўнікаў і інфарматараў, вынікае, што «zborownicy zboru Białostockiego dążą, aby kaznodzieja Dziekuć-Malej opuścił Białystok. W związku z powyższym jak podaje inf. ps. „Szczery” z dnia 20 i 27.11. i inf. „Grzebień” z dnia 13.11. b.r., że w dniu 22.11.1951 r. po nabożeństwie na zebraniu zborowym zborownicy zboru Białostockiego tajnie podnieśli uchwałę i zaczęli zbierać podpisy pod postanowieniem do Rady Naczelnej Baptystów w Warszawie, aby kaznodzieja Dziekuć-Malej opuścił Białystok. Powyższa propozycja została wysunięta przez kaznodzieję Mackiewicza Jana z Bielska Podlaskiego. Zborownicy tego zboru dlatego chcą, aby Dziekuć-Malej opuścił Białystok, ponieważ on przeprowadza wszelkie przesunięcia sam, nie uzgadniając z pozostałymi członkami zboru, bierze z kasy zborowej pieniądze na różne wydatki i wyjazdy i w ogóle nie zezwala aby zborownicy zbierali się i rozmawiali o sprawach zborowych. W/g danych inf. „Szczery” z dnia 20.11. b.r. Dziekuć-Malej w rozmowie z członkami wypowiadał się, że rozmawiać i zbierać się nie będziemy dla tego, bo i tak wszystko o nas wie Urząd Bezpieczeństwa. Inf. ps. „Szczery” z dnia 27.11. br. podaje, że w chwili, gdy Rada Naczelna Baptystów w Warszawie odwoła ze stanowiska kaznodzieja zboru Białostockiego Dziekuć-Maleja, to na jego miejsce pozostanie kaznodzieja Dajludzionek Piotr, który jest po dwuletniej szkole biblijnej baptystów w Malborgu”[52].

Праз месяц — у справаздачы за снежань 1951 г. пісалася: «W okresie sprawozdawczym zmian w sekcie baptystów na terenie naszego województwa nie zanotowano, jedynie zborownicy zboru białostockiego w dalszym ciągu dążą, aby kaznodzieję Dziekuć Maleja odwołano ze zboru białostockiego. W związku z tym, jak już podawaliśmy w poprzednim sprawozdaniu członkowie zboru białostockiego wystosowali podanie do Rady Naczelnej Baptystów w Warszawie z prośbą o zdjęcie Dziekuć Maleja z kaznodziejstwa w Białymstoku. Na podaniu tym podpisało się 26 członków zboru białostockiego. Jak podaje źródło „Biały” z dnia 31.XII.51 r. i „Grzebień”, to Rada Naczelna Baptystów w Warszawie podanie to z prośbą baptystów zboru białostockiego rozpatrzyła i w pierwszej połowie stycznia 1952 r. ma przyjechać przedstawiciel z Rady Naczelnej w Warszawie i rozstrzygnąć na zebraniu zborowym sprawę Dziekuć Maleja. (...) Jak podaje źródło „Szczery” z dnia 11.XII.51 r., że w dniu 6.XII. 51 r. po powrocie Dziekuć Maleja z Gdańska, Malborga i Elbląga, gdzie w/w przeprowadzał ewangelizacje, członkowie zboru baptystów w Białymstoku chcieli przeprowadzić z nim rozmowę, dlaczego on tak rozjeżdża, traci pieniądze i nikomu nic nie mówi i.t.p. W chwili gdy członkowie weszli do pokoju Dziekuć Maleja, to on powiedział, że „rozmawiać z wami nie będę, i proszę iść do domu, ponieważ ja nic nie będę mówić, bo po każdej rozmowie U.B. mnie ciąga i potrzebuje danych o tym, co my mówiliśmy na posiedzeniu. Na zakończenie zaznaczył i zagroził członkom zboru, że jeżeli wy będziecie interesować się moją osobą, to źle z wami będzie”[53]. Далей у справаздачы беластоцкая бяспека паясняла, што Л. Дзекуць-Малей ніколі не выклікаўся ёй і ніколі не быў дапытваны. Тым не менш асоба — як вынікае з вялікага аб'ёму дакументаў, сабраных на яго Міністэрствам публічнай бяспекі Польшчы на працягу пяці гадоў — знаходзілася пад яго пільным вокам. Усё было пра яго вядома — дзе быў, з кім сустракаўся, чым займаўся, пра што пісаў у лістах да сям'і. У справаздачы беластоцкай бяспекі за снежань 1951 г. падаваліся вельмі падрабязныя звесткі пра яго, напр.: «O tym, że członkowie białostockiego zboru baptystów nie mają zaufania i źle są ustosunkowani do Dziekuć Maleja może świadczyć niżej przytoczony fakt, podany przez źródło „Biały” z dnia 19.XII.51 r., że w dniu 9.XII.51 r. na nabożeństwie gdzie kazanie miał Dziekuć Malej i gdy doszło do chwili t.zw. „Wieczerzy pańskiej” to większość członków zboru na czele z Prusakiem Mikołajem, Korbowiczem Janem i Białkowskim Władysławem opuścili salę mówiąc, że taki kaznodzieja jak Dziekuć Malej nie powinien udzielać „wieczerzy pańskiej”, gdyż on jest nie godzien tego, ponieważ wprowadza nienawiść między członków zboru baptystów”[54].

(працяг будзе)

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

1 *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*, т. 3, Мінск 1996, с. 224-225.
2 Л. Глагоўская, *Жыццё і дзейнасць Лукаша Дзекуць-Малея*, «Ніва», № 37, 12.09.1999, с. 8-9; № 38, 19.09.1999, с. 9; № 39, 26.09.1999, с. 9; Н. Пекун, *Лукаш Дзекуць-Малей: жыццё і служэнне*, [у:] *Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі: зб. матэрыялаў, арт. і дак.*, Брэст 2011, с. 172-173.
3 А. Ш., *Лукаш Дзекуць-Малей*, «Беларус», № 3 (53), 20.09.1955, с. 4.
4 G. Picardo, *The Heavenly Fire*, «Божым Шляхам», 1974, № 1-2, с. 24.
5 Sprawozdanie okresowe składane władzom administracji państwowej. Lista duszpasterzy wszystkich wyznań. Odpis. 26.06.1947 r. (копія ў зборах аўтара).
6 Historia zboru chrześcijan baptystów w Gdańsku (машынапіс са збораў збору хрысціян-баптыстаў у Гданьску), с. 8.
7 Л. Глагоўская, *Жыццё і...*, «Ніва», № 38, 19.09.1999, с. 9.
8 Тамсама. На адвароце аднаго са здымкаў стаіць дата: 18.02.1946 г.
9 *Пратакол Другога Усебеларускага Кангрэсу ў Менску*, ЗША 1985, с. 18.
10 Ліст Л. Дзекуць-Малея да Я. Пятроўскага, 13.01.1945 г. (копія ў зборах аўтара).
11 С. Пекун, *Лукаш Дзекуць-Малей...*, [у:] *Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія...*, с. 175.
12 Л. Глагоўская, *Новае пра Лукаша Дзекуць-Малея*, «Ніва», № 49, 3.12.2000, с. 10.
13 Тамсама.
14 Хатні архіў А. Дзекуць-Малей.
15 Komenda Powiatowa Milicji Obywatelskiej w Lipinach do Ob. Dziekuć-Malej Łukasza, Lipina dnia 18.VIII.1945, у хатнім архіве Э. Дзекуць-Малей.
16 Zaświadczenie, Lipiny dn. 2-2-46 r., у хатнім архіве Э. Дзекуць-Малей.
17 E. Rymar, *Lipiany i okolice poprzez wieki (do 1945 roku) z exursem o polskich pionierskich latach 1945-1950 (Lipianach „powiatowych”)*, Lipiany 2014, с. 223, 269.
18 Zaświadczenie, Lipiny dn. 20 maja 1947 r. (падпісанае войтам Г. Ягнешкам), у хатнім архіве Э. Дзекуць-Малей.
19 Zaświadczenie, Gdańsk-Wrzeszcz, dnia 25.4.1947 r., у хатнім архіве Э. Дзекуць-Малей.
20 BU 01283/1505/J. C. 99 (K. 9). Ministerstwo Bezpieczeństwa Publicznego. Doniesienie agenturalne. Źródło: „Ksiądz Biblja”, data: 26.III.47 r.
21 Тамсама.
22 BU 01283/1505/J. C. 101 (K. 11): Wywiad na Dziekuć-Maleja (odpis).
23 Тамсама, с. 104 (K. 16): Пісьмо Ваяводскай управы публічнай бяспекі ў Гданьску да Дэпартамента V МПБ у Варшаве, Гданьск, 15.III.1948 г.
24 Тамсама.
25 Тамсама.
26 Тамсама.
27 Тамсама.
28 Тамсама, с. 98, (K. 8a): Інфармацыя Міністэрства публічнай бяспекі ад 12.3.1949 г.
29 Тамсама, с. 95, (K. 7): „Polski Kościół Chrześcijan Baptystów”. Białystok. Dziekuć-Malej.
30 Тамсама, с. 124, (K. 116): Wojewódzki Urząd Bezpieczeństwa Publicznego w Białymstoku. Raport o przebiegu agencyjnego rozpracowania. Białystok, dn. ......1952 r.
31 Тамсама, с. 95, (K. 7): „Polski Kościół Chrześcijan Baptystów”. Białystok. Dziekuć-Malej.
32 Тамсама, с. 108, (K.23): Źródło: „Żebrowski”. Doniesienie agenturalne z dnia 20.VI.1950 r.
33 Тамсама, с. 109, (K. 24): Charakterystyczne fakty i zmiany w sytuacji politycznej poszczególnych środowisk i obiektów.
34 Тамсама.
35 Тамсама, с. 110, (K. 25).
36 Тамсама, с. 112, (K. 28): Warszawa dn. 23.V.1950 r. Do Naczelnika Wydz. V W.U.B.P. w Białymstoku.
37 Тамсама, с. 113, (K. 32): Wyciąg z protokółu przesłuchania podejrzanego 18.IX.50 r. Remżyk Michał.
38 Тамсама, с. 114, (K. 33): Wyciąg z protokółu przesłuchania Ludwika Szenderowskiego z dn. 29 września 1950 r.
39 Тамсама, с. 116, (K. 35): Notatka służbowa. W-wa 18.XII.50 r.
40 Тамсама, с. 131, (K. 50): Meldunek specjalny /o sytuacji na terenie zboru babtystów w Białymstoku w Związku z Narodowym Plebiscytem Pokoju/. Białystok dnia 16 maja 1951 r.
41 Тамсама, с. 132, (K. 51): Notatka służbowa z rozmowy z kier. sekcji III W. V Białystok. Dn. 22 V.51 r.
42 Тамсама.
43 Тамсама.
44 Тамсама.
45 Тамсама, с. 141, (K. 58a): Protokół przesłuchania świadka. Białystok, dnia 30 maja 1951 r.
46 Тамсама, с. 142, (K. 59).
47 Тамсама, с. 179, (K. 90): Protokół z przesłuchania podejrzanego. Warszawa, dnia 13 sierpnia 1951 r. Ściśle tajne.
48 Тамсама, с. 180, (K. 91): Doniesienie agencyjne z dnia 22.VIII.51 r. Źródło: „Posłaniec”. Ściśle tajne.
49 Тамсама, с. 181, (K. 93): Doniesienie agenturalne. Źródło: „Żebrowski”.
50 Тамсама, с. 182, (K. 94).
51 Тамсама, с. 183, (K. 95).
52 Тамсама, с. 194, (K. 106): Charakterystyczne fakty i zmiany w sytuacji politycznej na poszczególnych obiektach i środowiskach. Po linii Baptystów. Spr. okr. za listop. 51 r. z Białegostoku.
53 Тамсама, с. 196-197, (K. 107-107a): Po linii baptystów. Białystok grudzień 51.
54 Тамсама, с. 197, (K. 107a).

# Было файнае жыццё

Жыццё кожнага чалавека прамінае вельмі хутка. Мае ранейшыя суразмоўцы адышлі або адыходзяць у вечнасць, астаецца запіс іхніх успамінаў. Маімі субяседнікамі становяцца людзі са штораз малодшага пакалення, якія ўжо на парозе свайго жыцця... Размаўляю з **Федзем КАНОПЛЯМ**, 1940 года нараджэння, з Крывятыч, які ўспамінае пасляваенныя гады, расказвае аб жыцці ў ПНР...



**— Як Вы ўспамінаеце механізацыю?**

— Помню, што яшчэ пасля Другой сусветнай вайны нарог плуга быў драўляны, але адкладня была ўжо жалезная. Кавалём у Крывятычах быў Федзя Суліма. Я да прызыву ў войска некалькі гадоў араў, але ўжо плугам жалезным. Памятаю гаспадароў, якія баранавалі драўлянымі баронамі з жалезнымі зубамі. Адзін конь ішоў спераду, а другога гаспадар вёў за аброць ззаду, бо наўкос валачылі. Пасля мой бацька Грыгорый купіў г.зв. ссыпныя бароны, „саракоўкі”, ужо на пару коней, і ўжо жалезныя.

Яшчэ да вайны група гаспадароў: мой бацька, дзедка Тадэвуш Суліма, Іван Кулік і Кавецкі заснавалі г.зв. кулка. Мелі яны свой малацільны агрэгат — шырокамалотку, мелі веялку і манеж (керат). Калі была пара малацiць, то манеж перавозілі на друках на возе. Пасля сталі людзі купляць манежы кожны сабе. Манеж прыводзіў у рух малатарню ў клуні, а манеж цягнулі коні, дзве пары. Была прывязь, што трымала коней, а ўжо дзеці іх бічом паганялі.

Дзед па бацьку быў таксама гаспадаром, меў без чвэрці ўчастак, а другі дзед меў палову ўчастка. У бежанства наша сям'я падавалася, але куды — не ведаю; ніколі пра гэта не давялося размаўляць пра сямейную гісторыю і цяпер гэтага шкадую. Мой бацька многа ведаў, меў нават сваю бібліятэку, а я нават не спытаўся і не ведаю дакладна сваіх каранёў.

**— Як Вы вучыліся?**

— Адзін год вучыліся мы ў Крывятычах, навучанне адбывалася ў хаце Кавальчука. А пасля хадзілі ў школу ў Мора; школа была пасярэдзіне вёскі, зараз там клуб. Была гэта хіба яшчэ даваенная школа. Закончыў сем класаў і далей нікуды: стаў на працу ў Белавежскай пушчы. Тады быў такі час — бацьку лічылі кулаком і доступ да адукацыі быў ускладнены. Я прыгожа рысаваў, гэтую ўмеласць унаследаваў па бацьку. І быў такі настаўнік з Гайнаўкі, які вельмі хацеў паслаць мяне ў мастацкую школу. Гаварыў: „Ідзі, Канопля, а я табе памагу”. Але што ж — гаспадарка, дзяцей нас было пяцёра, зямля...

Мая праца на гаспадарцы была пераплецена з працай у пушчы. У пушчы працаваў толькі зімою, а вясной вяртаўся дадому. Што я там рабіў? Быў г.зв. маніпулятарам — хадзіў з ляснічым, і была яшчэ адна дзяўчына, падляснічы (тры гады старэйшая за мяне), і лес клепавалі. Ляснічы мераў, а яна запісвала, пералічвала. Пасля дзер паясы. А калі стаў крыху дужэйшы, то пачаў ужо спілоўваць дрэвы ручною пілою. Цяжкая праца, тоўстыя дрэвы звальвалі. Працаваў я з крывятыцкімі аднавяскоўцамі Алёшам Тамчуком, Федзем Рагозам, Колем Жураўлём.

Уставалі раніцай, самі мусілі варыць. Жылі ў г.зв. белавежскім бараку. Чатыры кіламетры ішлі на месца працы; была там г.зв. Арэнбургская трыба. Даходзілі на досвітку. Спускалі галоўным чынам сасну і ель. Зімою дзень кароткі і зараз змяркае. Тады пачыналі паліць голле.

У бараку, некалькі кіламетраў ад чыгуначнага прыпынку Чарлёнка, варылі вячэру. Мяса не было, толькі саланіна. Ці было холадна спаць? Калі напалім печку-„казу”, то на нарах зверху было душна, а знізу добра. Затое раніцай той знізу ўжо мерз. Спалі на саломе, а падушкай было сена. Здарылася раз так, што вярнуліся крыху пазней у барак, а нехта выбіў з завесаў дзверы; быў вялікі мароз, снег. Мы пакладіся спаць у шапках, а пад галаву паклалі бульбу. Устаем рана, а тая бульба змерзлая.

**— Ці кожны вясковец дарабляў у пушчы?**

— Падаткі трэба было аплачваць, секвестратар заглядаў, пяцёра дзяцей, двое дзедкаў, разам

працяг ☞



Колькі існуе чалавецтва, столькі яго суправаджае музыка. А каб ствараць музыку, людзі спрадвеку рабілі разнастайныя музычныя інструменты. У цэлым свеце такіх інструментаў безліч, прычым хоць створаныя ў старадаўнія вякі прылады існуюць і дагэтуль, чалавечая думка вынаходзіць новыя. Таксама народы, маючы свае інструменты, запазычваюць іх адзін у аднаго, узбагачаючы музычную палітру ўласнага жыцця.

Людзі ў свеце нараджаюцца штодня. З вялікай доляй верагоднасці можна сказаць, што і музычныя групы нараджаюцца з падобнай рэгулярнасцю. Для іх, безумоўна, патрэбны музычныя інструменты. Гэтыя інструменты як звычайныя тавары прадаюцца ў адпаведных крамах, якія ёсць у кожнай краіне. Але крама, якая прадае музычныя інструменты па-беларуску, у свеце, бадай, адна. І каб з ёй пазнаёміцца, варта зазірнуць на яе старонку ў інтэрнэце, якая месціцца па адрасе **https://bysound.by**.

Шчыра кажучы, BySound — інтэрнэт-крама, дзе, каб набыць тавар, яго лепей спачатку замаўляць, а потым прыязджаць выкупляць. Усё, што маюць музычныя камерсанты, прадстаўлена на дадзеным сайце, які пабудаваны з выкарыстаннем сучасных аздабленняў. Яны робяць сайт даволі цікавым і змястоўным, бо патэнцыйны пакупнік з лёгкасцю знойдзе там патрэбны тавар. „Мы — музычная крама з асартыментам у некалькі тысяч тавараў шырокага музычнага профілю. Мы працуем па ўсёй Беларусі, дастаўляючы заказы ў любую кропку краіны. Мы базуемся ў Мінску і маем тутэйшы пункт самавывазу. Мы — народная крама, якая ставіць сваёй мэтай задавальняць любыя патрэбы музыкаў, як прафесійных, так і тых, хто толькі становіцца на гэты цудоўны шлях. Мы дбаем пра падтрымку і развіццё беларускага музычнага асяроддзя. Урэшце, мы самі — музыкі, таму здольныя адказаць за якасць таго, што прапануем. Падказаць, параіць і дапамагчы сарыентавацца. Мы імкнемся быць больш за простую музычную краму, быць вашымі надзейнымі сябрамі і памочнікамі, падтрымліваць вартыя ініцыятывы і проста будаваць і прыўносіць лепшае”, — распавядаюць уладальнікі інтэрнэт-крамы ў рубрыцы „Пра нас”. Дарэчы, выйсце на яе, як і на іншыя рубрыкі, знаходзіцца ў правым вышэйшым вугле і ўнізе цэлага выяўлення, прычым заўважыць іх даволі складана, бо падаюцца непрыкметным, дробным шрыфтам.

Сайт BySound нядаўна быў заўважаны інтэрнэт-каталогам беларускамоўнага бізнесу „Свае”. Пасля чаго з'явіўся прыязны водгук, размешчаны ў гэтым жа інтэрнэт-каталогу. „У вакенцы кансультацыі на сайце (live-chat) вас без праблем пракансультуюць па-беларуску. Беларускамоўная версія сайта завершана на 90% (пры такім шырокім асартыменце гэта вельмі крута. Рэспект!). Па пазначаным тэлефоне па-беларуску адкажуць таксама”, — напісалі „Свае”.

Пэўна, у тыя 10% незавершанай беларускамоўнай версіі ўваходзіць „Навіны”, дзе ўсе паведамленні пададзены на рускай мове. Прычым навін даволі многа, таму наўрад ці музычным гандлярам удасца ўсё адразу перакласці на беларускую мову. Аднак, калі б яны пачалі падаваць па-беларуску самыя апошнія паведамленні, ужо не кранаючы ранейшых, гэта пашырыла б беларускамоўнасць сайта.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## 125 гадоў з дня нараджэння Кастуся Езавітава

Беларускі палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык, педагог Кастусь Езавітаў нарадзіўся 17 лістапада 1893 г. у горадзе Дзвінск (цяперашні Даўгаўпілс, Латвія). Паходзіў з сям'і кадравага афіцэра. У 1916 г. скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і Паўлаўскае ваеннае вучылішча. Быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады. У Першую сусветную вайну праводзіў актыўную асветніцкую працу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту. Быў абраны намеснікам старшыні Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады. У лютым 1918 г. стаў камендантам Мінска. За ўдзел у працы Першага Усебеларускага кангрэса і дзейнасць па стварэнні беларускага войска ў студзені 1918 г. арыштаваны чэкістамі, але здолеў уцячы. Пасля адступлення бальшавікоў прызначаны камендантам Мінска і Мінскага гарнізона. 25 сакавіка 1918 г. быў у ліку тых, хто абвяшчаў БНР, уваходзіў у склад яе Рады. Займаў пасаду народнага сакратара па вайсковых справах (па сутнасці міністра абароны). У сакавіку 1919 г. прызначаны вайсковым камендантам Гродна. У 1919-1920 гг. Езавітаў быў кіраўніком вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. Наладзіў дыпламатычныя стасункі беларускага ўрада з урадамі Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, звяртаўся з просьбай пра ваенную дапамогу да ўрада ЗША. Праводзіў працу па арганізацыі беларускага войска, пошуку сродкаў на яго ўзбраенне і забеспячэнне. Арганізаваў пераход на службу БНР корпуса Станіслава Булак-Балаховіча. У траўні 1920 года „за выдатную працу на карысць Беларускай Народнай Рэспублікі” атрымаў вайсковае званне генерал-маёра.

У 1921-1944 гадах жыў і працаваў у Рызе, узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднанне. Дзякуючы Езавітаву, беларуская супольнасць у Латвіі сталася, бадай, найлепш арганізаванай за межамі БССР. Быў намеснікам старшыні таварыства „Бацькаўшчына” ў Латгаліі, узначальваў беларускае выдавецтва, таварыства беларусаў-выбаршчыкаў, беларускіх настаўнікаў, навукова-краязнаўчае таварыства. Быў кіраўніком Люцынскай беларускай гімназіі, якая выхавала многіх свядомых беларусаў. Браў удзел у Пражскай і Берлінскай палітычных канферэнцыях. Рэдагаваў газету „Голас беларуса” і часопіс „Беларуская школа ў Латвіі”. За сваю нацыянальную працу ажно чатыры разы арыштоўваўся латвійскімі ўладамі (у 1924, 1930, 1933 і 1935 гг.).

У час Другой сусветнай вайны займаўся арганізацыяй беларускіх школ у Латвіі. На Другім Усебеларускім кангрэсе абраны ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады. У 1945 г. займаў пасаду вайсковага міністра ва ўрадзе БЦР. Езавітаў працаваў над адкрыццём беларускіх школ, займаўся парадкаваннем архіва БНР і навуковымі даследаваннямі.

Кастусь Езавітаў быў затрыманы савецкай контрвыведкай СМЕРШ у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай версіі, памёр у час „следства” ад сухотаў і дыстрафіі 23 траўня 1946 г., паводле іншых звестак — расстраляны ў засценках НКВД у Менску. Месца пахавання засталося невядомым.

Кастусь Езавітаў напісаў шэраг кніг і артыкулаў па гісторыі нацыянальна-вызвольнага руху, беларусазнаўстве — вядомыя яго працы „Беларусы ў Літве”, „Беларусы ў Латвіі”, „Беларусы і палякі”, аўтар лірычных вершаў, укладальнік школьных дапаможнікаў. Меў багаты кнігазбор, падрыхтаваў да друку невядомыя раней творы Максіма Багдановіча.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

усіх дзевяць душ у адной хатцы. А пасля працаваў каля Белавежы. Быў крыху і на захадзе, у Вармінска-Мазурскім, дзе працаваў на паслянямецкай меліярацыі. У 1963 годзе ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Зінай і да яе перабраўся.

У 1970 годзе стаў на працу ў сельскагаспадарчым гуртку ў Крывятычах; тады яшчэ не было эскаэраў. Было праўленне, свае машыны і дзейнічалі мы ў рамках вёскі ды выконвалі паслугі для іншых вёсак. Спачатку мелі трактары Урсус-28, пасля „4011", „шасцідзясяткі".

А калі ў Орлі зладзілі эскаэр, то да іх далучыліся; тут, у Крывятычах, была эскаэраўская база; мелі ў распараджэнні машыны з Орлі. Першым старшынёй міжгуртковай машыннай базы быў Міхал Цымбалюк, а пасля першым старшынёй эскаэру; пазней старшыні хутка мяняліся. У эскаэры прапрацаваў 26 гадоў, да пенсіі; спярша працаваў трактарыстам, а пасля таксама працаўніком разумовай працы.

**— Спытаю: эскаэры заняпалі; не мелі яны падстаў існавання?**

— Мне здаецца, што падвяло неакуратнае кіраванне. Набралі машын, не дагледалі іх. Я шмат часу быў кіраўніком майстэрні і на пункце ў Крывятычах. Калі б іх дагледалі...

Чаму не было прадукцыйнасці? Не спрацавала задума, бюракратыі было таксама зашмат. Было так, што нельга было даць большай стаўкі лепшаму трактарысту, толькі давалі пароўну тым добрым і тым дрэнным. Калі былі падбаўкі, то ўсім.

**— А партыя мела ўплыў?**

— Была партыя, але тады так надта сельскай гаспадарцы не адводзілі належнай увагі. У мяне складвалася ўражанне, што ўсё ідзе ў заняпад. Задума тых сельгасгуртко ў была настаўлена на заняпад, знішчаліся з вярхоў. Найбольш занепадалі дзяржаўныя пэгеэры.

**— Але калектыўныя гаспадаркі працвіталі...**

У крывятыцкім калектыве былі працадні і ў іх былі добрыя зарплаты, рабочы мог зарабіць 2-3 працадні ў дзень. Таксама ў Крывой, у Орлі. Калі ў гуртках быў баланс, то так неафіцыйна, але трактарыст мог паехаць і зарабіць сабе шабашнічаючы — бралі за паслугу менш, не запісвалі, а грошы... Пазней рыхтавалі парася, калолі. Было Кола вясковых гаспадынь, шыкавалі абед. І тады два дні гулялі, былі танцы. А ў эскаэры то тыя гульбы былі яшчэ часцейшыя. І ёлкі — мой брат Толік іграў з калектывам, я наймаў, бо быў старшынёй прафсаюзаў, ладзілі працаўнікам экскурсіі па Польшчы, спраўлялі юбілеі то старшыні, то галоўнай бухгалтарцы, розным кіраўнікам, жанчынам; былі паездкі ў недалёкі лес — набяруць гарэлкі...

**— А як было ў эпоху ПНР з алкаголем на працы? Я некалькі гадоў працаваў у майстэрні эскаэру. Памятаю, што пасля свайго вяселля прынёс пасля поўдня пачастунак калегам — быў такі звычай. Акурат быў тады дзень выплаты і калегі, не зважаючы на тэлефоны з бюро, заявілі, што ў іх зараз вяселле і ў касу яны не пойдуць.**

— Алкаголю быццам нельга было выпіваць, але было можна, не праследавалі. Помню, мы, трактарысты, бралі з недалёкай мясарні галавізну, а камбайнеры мелі гарэлкі колькі хочаш (давалі ім наймальнікі) і з раніцы запрашалі заказчыка ў майстэрню або ў гараж і *w rurę*. І ніхто нічога не гаварыў.

**— А зараз?**

— Цяпер гэта немагчыма, усюды камеры; цяпер цяжка жыць. Сочаць, а калісь нічога не ведалі, усё было шыта-крыта.

**— А як адносілася тадышняя міліцыя да трактарыстаў?**

— Памятаю мясцовага міліцыянта, маладога. Ездзіў я тады трактарам у Локніцу па жвір для заказчыка з Орлі. Міліцыянт сядае да мяне ў трактар і кажа: „Мне не выпадае разгружаць, я буду пільнаваць". Разгрузілі, атрымалі грошы, ідзем у гасподу. Сядаем з міліцыянтам, выпілі, а я на трактар і дадому. І ездзілі, і не было выпадкаў. Было файнае жыццё.

Вязу рускім трактарам з жонкай Зінай пустаблокі ў Бельск; жонка сядзіць у трактары збоку. У пачатку горада спыняе мяне міліцыянт і кажа, што ўдваіх нельга ехаць. То я пытаю яго, хто мне паможа разгрузіць.

— Але нельга. Сто злотаў.

— Сто злотаў? Але за што?

— Плаціць!.

— Пан ёсць паліцыянт! — кажу.

— Як паліцыянт?

— Бо як я хадзіў у школу, — гавару — то пані мяне вучыла, што пры санацыі была паліцыя, якая палявала на людзей, а зараз міліцыя, якая любіць людзей. А пан мяне ўпаляваў.

— *O, taki mądry!*

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў **Міхал МІНЦЭВІЧ**

**Фота Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Да чаго дакаціліся

Узмацняецца пратэст паліцэйскіх. Сторажы правапарадку не выходзяць з лозунгамі на вуліцу, але масава прыносяць бальнічныя лісткі з-за хваробы. Паводле паліцэйскіх статыстык у маштабе краіны на агульны лік дзевяноста сямі тысяч паліцэйскіх штатаў, на службе адсутнічае сорак тысяч функцыянераў. Для прыкладу, у гарнізоне Лудзь адсутнасць з-за хваробы складае 36% персанальнага складу, затым адпаведна: у Куяўска-Паморскім — 38%, Люблінскім — 35%, Велькапольскім — каля 50%, Падкарпацкім — 44%, Падляшскім — 28%, Заходне-Паморскім — 36%. У большасці кампенсацыя за перыяд непрацаздольнасці з-за хваробы складае сто працэнтаў стаўкі, а гэта значыць, што адсутнасць на працы ўзнікала па прычыне асаблівага характару службы. Гэта доказ таму, што ў сілавых ведамствах ад зараз патрабуецца ажыццяўленне закону стапрацэнтнай платнай стаўкі, чаго ад трох гадоў патрабуюць паліцэйскія прафсаюзы.

У выніку пратэсту назіраецца паменшаны лік начных патрулёў, таксама ў дарожным руху. За могільнікамі не наглядаюць паліцэйскія адно Гарадская стража. Сторажы правапарадку масава пакарысталіся бальнічнымі лісткамі. Таму 1 лістапада на Усіх Святых на гарадскіх тратуарах не хапіла шматлікіх паліцэйскіх патрулёў. А што будзе 11 лістапада, у гадавіну Стагоддзя незалежнасці Польшчы? Галоўны камендант паліцыі публічна абвясціў у тэлебачанні, што хто 11 лістапада ставіцца на службу, дык атрымае тысячу злотых прэміі.

Паводле «Газеты выбарчай» у Лодзі, па прычыне адсутнасці паліцэйскіх на вуліцы высланы былі курсанты, якія не закончылі асноўнага абучэння. «Навічкам» выдалі зброю з баявымі патронамі ды паслалі без апекі вопытных функцыянераў. Вось да чаго, даражэнькія, дакаціліся.

Назіраючы штодзённа палітыкаў Права і справядлівасці пасля самаўрадавых выбараў і іхнія «пераможныя» выступленні хочацца, прыжмурыўшы вока, сказаць: «Хвальбы поўны тарбы, а ў тарбах — пуста». Суверэн у вялікіх гарадах, ды не толькі, зразумеў «добрую змену» і паказаў чырвоную картачку.

**Уладзімір СІДАРУК**

# 18.11 — 24.11

**(22.03. — 20.04.)** Ажыццявіш без цяжкасцей усе свае ідэі. Усе твае рашэнні будуць слушнымі. Інстынкт цябе не падвядзе! 18-22.11. — гучныя спрэчкі з партнёрам; доўга на сябе не будзеце дуцца, паяднае вас жарсць. 22-24.11. слёзы хвалявання і радасці. Не апускай рук, мусіш знайсці выхад з імпасу.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш асабліва сварлівы. Цяжка будзе з кампрамісам, таму не плануй ніякіх негацыяцый, а падпісванне дамоў адкладзі на больш спрыяльны час. Пад уплывам новага знаёмства схочаш змяніцца. Абавязкова ідзі да лекара, хоць табе здаецца, што «само пяройдзе».

**(22.05. — 22.06.)** 22-24.11. твае пачыны набяруць віднасці і размаху. Спраўнасць розуму, інтэлігентнасць і проста геніяльныя задумы могуць памагчы ўзабрацца табе на пару прыступак вышэй у жыцці. З 17.11. пагрозы для твайго здароўя. Не гуляй небяспечна, бо цяжка ўсё будзе гаіцца. Не памылі дозы лякарстваў.

**(23.06. — 23.07.)** Да 19.11. поспехі ў навуцы. З 19.11. не прымяняй ніякіх цуд-дыет, бо хутка пасля папаўнееш. 24.11. цяжкі настрой хутка міне. Файныя і займальныя сустрэчы з раднёй і сябрамі. 18-20.11. хаос, запісвай тэрміны, не спазніся. 22-24.11. прачнуцца беспадстаўныя неспакоі. Выкінь з лядоўні папсаваныя прадукты.

**(24.07. — 23.08.)** Мілая кампанія сяброў паможа забыць табе ўсе клопаты і паразы. Крыху нуднавата ў сям'і (манатоннасць паслабляе сувязі). Не гуляй у дыктатара з партнёрам, бо пачне табе маніць, зводзіць, аж урэшце пазбягаць. Лепшыя грошы за ўзорную працу. Не шалей на вуліцы!

**(24.08. — 23.09.)** Захопіш усіх сваімі ведамі, будзеш ззяць у атачэнні. Будзеш улюбёнцам знаёмых і душой кампаніі. 17-21.11. лепш трымай язык за зубамі, не ляпні чаго, бо пасля магчыма адплата. З 22.11. кіраванне мроямі і жаданнямі можа цябе моцна расчараваць. Могуць спозніцца або адмяніцца твае планы. 22-24.11. можа турбаваць цябе незадавальненне і чорнае бачанне будучыні. З 18.11. могуць трапляцца аварыі прылад, парабі запасныя копіі.

**(24.09. — 23.10.)** Да 20.11. будзеш мець нагоды зрабіць усё па-свойму. Будзь адкрытым на новыя магчымасці, бо лёс нясе табе новыя шанцы. З 21.11. будзеш лішне пабуджаны і перавялічыш шмат праблем. Будзеш лакомы, не папаўней.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш да 20.11. крыху непрысутны духам. Пераканаешся, ці ў тае асобы маеш шанцы. На найлепшыя стратэгіі ў фінансах чакай да 24.11. З гэтага дня будзеш мець асаблівае шчасце (да 28.11.). Зайздрасць і падазронасць партнёра могуць папсаваць табе жыццё. На працы шмат дасягненняў, некаторыя заслужаныя, іншыя ўпадуць табе як манна з неба.

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш ажыўлены, поўны запалу да працы, хаця едзеш на энергічным рэзерве да 21.11. Чакаюць цябе поспехі, справішся з кожным выклікам. З 24.11. (да 28.11.) інвестуй, іграй — можаш разбіць банк! 18-22.11. спрэчкі з кіраўніцтвам. Пасля 22.11. весела ў кампаніі. Лішак энтузіязму спалучаны з рызыкай могуць прынесці табе бяду (22-24.11.).

**(23.12. — 20.01.)** Да 19.11. добры час на негацыяцыі, важныя пакупкі, інвестыцыі. Але не аплаціцца бессэнсоўна ўпірацца пры сваім. Адпачні ад партнёра, каб пасля за ім патужыць. Не абцяжарвайся празмернымі абавязкамі. Калі ў цябе шмат поспехаў, гэта не значыць, што ты лепшы за іншых. Ежу прыпраўляй травамі.

**(21.01. — 19.02.)** Не кіруйся стэрэатыпамі. Бяры справы якімі яны ёсць, і нічога не змяняй сілай. Не на ўсе змены ў пачуццёвым жыцці ты гатовы. Ненасытнасць у пачуццях. Уласную дзейнасць спалучы з працай у калектыве.

**(20.02. — 21.03.)** Да 20.11. можа падвесці цябе інтуіцыя. 18-20.11. не ўваходзь у падазроныя змовы, нічога важнага не падпісвай. З 22.11. магчымыя праблемы ў міжлюдскіх адносінах, асабліва службовых. Разлічвай выключна на сябе, бо трапіш у кабалу. Не хапай сарака сарок за хвост. Можаш зрэалізаваць рамонцік дома, парабіць парадкі. Цяжкія дні канкурэнцыі з 18 да 22.11., лёгка можаш яе перамагчы. 22-24.11. ваша знаёмства можа перайсці на вышэйшы ўзровень, асабліва калі апынецеся ў службовым падарожжы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**1.** левы прыток Прыпяці каля Глуска, **2.** дзяржава з Бамако, **3.** ламаныя, непрыгодныя для карыстання прадметы, **4.** кубічны корань з васьмі, **5.** буйны горад на паўднёвым усходзе Аўстрыі, **6.** выспа з Джакартай, **7.** група асоб выражаючая грамадскія патрабаванні, **8.** травяністая драўнінная расліна, сцёблы якой растуць пучком, **9.** гільза артылерыйскага снарада, у якой... Ака, **10.** фігура ў картах або ў салоне, **11.** рэчыва, якое ўжываецца для мыцця, **12.** сталіца з Белым домам, **13.** чужаземец, **14.** мадэль, у якой... мак, **15.** адзінка сілы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | | | 3 | | | 4 | | 5 | | | |
| | | 6 | | | | | 7 | | | | | | 8 | |
| | | | 9 | | | | | | | | | | | |
| 10 | | | | | | 11 | 12 | | | 13 | | | 14 | |
| | | | | | | | | 15 | | | | | | |

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Буш, базар, Лепель, мука, Нармандыя, паравоз, папараць, ліпа, чых, Зея, жаваранак, лань, ярмо, тумба, самакат, кісць, лава.

Рашэнне: **Лепш разумная павольнасць чым безразважлівая хуткасць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Люба Хмара з Занавінаў



Люба Хмара з сястрой Вольгай

— Ведаю я ваш Вэрсток, — кажа Люба Хмара, — ведаю Гайнаўку, Арэшкава. Там радня, сваякі. Там моладасць, пратаптаныя сцежкі...

Для Любы свет пушчанскіх людзей, хоць перасечаны кардонам, далей суцэльны. Яна ведае ўсё, што зараз дзеецца на хутары Гурыноўшчына ў Дубіцкай гміне. Калі ў час нашай размовы ёй пазваніць сваячка з той Гурыноўшчыны, Люба адкажа на сваяцка-племяннай ноце:

— *У мэнэ людэ од Вэрстока. Пытают про Хмарув, со Стэпанового роду...*

Яна сама родам з Кустаўца, які да 1948 года знаходзіўся ў межах Польшчы. Тры гады пасля заканчэння вайны, калі нечакана навядуць новую карэктуру мяжы ды вырашаць далучыць іх вёску да СССР, узнікне пытанне: дзе быць? Той, хто жадаў жыць у Польшчы, мог перасяліцца на польскі бок. На перавоз маёмасці і жывёлы далі тры дні. Тады з іх вёскі з'ехалі Казачукі і Раманчукі...

— А наша мама была ў бежанстве, — адзначае Люба, — бачыла, як церпіць народ без айчыны. Сказала, каб застацца ў Беларусі, бо тут родны куток, свой разгавор, свае людзі...

Але ўсё пакацілася іншым шляхам. Савецкая ўлада не ўспрымала сваяцкіх і нацыянальна-сантыментальных аргументаў. Куставец, які прытыкаў да мяжы, рассялілі па розных мясцінах. І ўсіх загналі ў калгасы. Захапілі маёмасць, забралі пашпарты і заставілі працаваць за «палачкі», то-бок рыскі на паперы, паводле якіх выдзялялі мізэрныя кілаграмы збожжа.

— Людзі засталіся голымі і босымі, — успамінае савецкі «рай» жанчына. — Не дай Бог, каб вы такое спазналі!

* * *

Люба за свае 89 гадоў спазнала столькі, што хапіла б на тры-чатыры асобныя лёсы. Замуж выйшла ў 1951 годзе, у Занавіны. Год пазней яе сямейнае шчасце назначыла траўма. — Гэта было ў час палявання, — успамінае. — Майго чалавека зблыталі з дзіком і падстрэлілі. Ён доўгі час праляжаў у кустах з адкрытай ранай, маліўся і стагнаў: *хлопцы, спасайтэ!* Знайшлі яго пасля некалькіх гадзін у калюзе крыві. Разам быў той, што падстрэліў. Ды калі ён убачыў, што муж жывы, надта спалохаўся, бо ён уцёк з месца злачынства. Гэта быў свой чалавек, з Чвіркоў. Пад канец жыцця пакаяўся, папрасіў прабачэння.

Але тады ўсё гора скацілася на яе плечы. Пасля выпадку муж доўгія месяцы праляжаў у шпіталі. Вярнуўся няздольным да працы ў калгасе інвалідам. Яна нарадзіла дачку. Трэба дзіця даглядаць, карміць. І ў калгас мусова. Выраблядь тыя працадні.

Памятае, як у калгасе капалі бульбу і некалькі штук зарывалі ў ямкі. Прыходзілі ноччу, шукалі свой «скарб». Таксама пад заслонай ночы зрэзвалі каласы жыта і аўса, малолі ў жорнах і з гэтай мукі ляпілі праснакі і ляпёшкі. Гэта ж было пры Сталіне! За крадзеж, хай і сімвалічнай жмені каласкоў, маглі б саслаць у Сібір.

Але голад — не цётка! Кралі, камбінавалі ўсе. Інакш немагчыма было выжыць. У Занавінах дзейнічала свайго роду самадапамога і панавала змова маўчання.

— Брат майго мужа працаваў брыгадзірам, — успамінае старажылка, — то пры малацьбе ён тайком кожнаму насыпаў вядро збожжа. І ўжо на штось было...

Люба памятае, як аднойчы ў хату зайшоў чыноўнік нібыта за страхоўкай. Калі ён атрымаў грошы ў рукі, аб'явіў, што плата пойдзе на *заём*.

— Страхоўку мусова было заплаціць, — паясняе, — а той *заём*, як каму падыходзіць. Дык я адчула сябе ашуканай і вырвала гэтыя грошы. А той прыгразіў знішчыць сад і пчол...



Панасюкі

На шчасце абышлося без кары і турмы.

* * *

— А пасля гром мяне прыбіў, — кажа мая гераіня.

— Як гэта? Маланка ў вас пацэліла?

— А будзеце слухаць па-божаму?

— Вядома, па-божаму....

Чарговы аповед з роду цудаў, пажараў і ўцаленняў, хоць балючы і страшны, старажылка прыводзіць на энергетычнай ноце і ўбірае яго ў каларытныя вобразы.

Гэта здарылася летам у пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Ад лесу надышла дзікая бура з маланкамі. Сцярнела неба і абарваўся град.

— А я стаю ў канторы пры тэлефоне, гляджу ў прыадкрытае акно і думаю, што рабіць, — успамінае жанчына, — бо мой шасцігадовы сынок заганяе кароў на двары. А ён адчайна баіцца грому! Такі сполах на яго налятае — не ўтаймаваць. Я гляджу на яго праз акно і адчуваю страх. Б'ецца ў грудзях сэрца. Здаецца, нехта падрывае на ногі... І ўжо лячу да яго... ратаваць дзіця, суцешыць...

Але ўсё гэта адбываецца ўжо ў думках... Дзесьці па-за яе воляй, па-за целам. Перад хвілінай праз прыадкрытае акно пацэліла ў яе маланка. Вогненная грудка ўварвалася праз рот, пайшла ўсярэдзіну. У паветры пачулі пах смаленага мяса... Пасля нехта крычаў, выдаваў каманды. Хоць паводле афіцыйнай ідэалогіі зажэрта клеймавалі народную медыцыну, Любу адратавалі старым, вясковым спосабам. Адразу закапалі ў зямлю. Не памятае, як прыехала хуткая дапамога, як везлі ў бальніцу, як ратавалі ад гібелі...

— Я прачнулася ўжо ў шпіталі, — здзіўляецца свайму выпадку жанчына, — ажыла на сваю долю.

Праўда, ад удару перуна цярпела на дзівосную немач. Асабліва, калі апранала нейлонавую хустку, прыбіваў яе невыносны боль галавы. Трацілa прытомнасць. Тады людзі параілі, каб насіла адно вопратку з натуральных тканін. Усё штучнае прыцягвала энергію з космасу.

Як не дзіўна, выпадак з маланкай не аблягчыў яе працоўнай сітуацыі. Адразу пасля шпіталя вярнулася працаваць у калгас. Глядзела кароў, працавала ў полі, капала і грузіла торф.

— Трэба ж было гадаваць дзяцей, — кажа з бадзёрасцю жанчына, — ды апекавацца мужам-інвалідам.

* * *

Люба дажывае са старэйшай сястрой, 92-гадовай Оляй. Звычайна цэлы дзень жанчыны ляжаць у ложках. Два разы ў тыдзень наведвае іх апякунка з Амелянца. Прывозіць яду і лякарствы, прыбірае ў хаце. Жанчыны не хочуць лажыцца на сацыяльную койку — так у Беларусі гавораць пра дажыванне ў дамах для састарэлых і нямоглых. Дзяржава прапануе апеку за пенсію. Але свабодалюбівым сёстрам такая выгада непатрэбная.

Спадарыня Вольга ўжо не дасць рады гаварыць. Час ад часу ад яе ложка чуецца дзівосны плач, які, больш чым жаласны лямант, напамінае сумную, загадкавую мелодыю...

— Калі памёр яе муж, я ўзяла сястру да сябе, — кажа Люба. — Ужо тры гады як мы разам дажываем. Сястра была замужам у Панасюках. Сёння гэта вымерлая вёска. Толькі ў летні сезон у Панасюкі з вуліцай зараслай травой і з пахіленымі забудовамі прыязджае дачнік з Берасця. А так — пустыня. Адзін вецер гуляе па старых гарышчах. Часам у сад забягуць алені з пушчы, каб паласавацца спелымі яблыкамі.

Люба Хмара прысутнасць сястры лічыць благадаццю.

— Раней у мяне пяць разоў у год здаралася арытмія, у шпіталь везлі, а зараз я здаровая. Адзін раз толькі хварэла. Гэта сястра так на мяне ўплывае. Ды дзе нам старым дзявацца? У сваёй хатцы, хоць адны — выгада! Рай. Нікому тут не замінаем...

Калі пакідаем абвешаную іконамі хатку Любы Хмары, ад ложка, дзе ляжыць спадарыня Вольга, зноў чуецца загадкавы, сумны плач. Ад гэтага развітання горка ў горле і слёзы ў вачах. І радасць у сэрцы з-за такой благадатнай сустрэчы.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 46